Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ
САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА
САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР

20 ЛІПЕНЯ 1929 г.

№ 7 (66)

V-ты год выданьня

ВЫДАНЬНЕ
КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК
І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР
МЕНСК — 1929 г.

# ЗЬМЕСТ.

*Стар*

## 1. Пастанова Эканамічнай Нарады пры СНК БССР

### пра ўвязку працы сыстэмы с.-г. крэдыту з дапамогаю беднаце.

У выкананьне пастановы Савету Народных Камісараў Саюзу ССР і Савету Працы і Абароны за 14 сьнежня 1928 году і з мэтаю ўвязкі працы сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту БССР з дапамогаю беднаце, уплыву сельска-гаспадарчага крэдыту на калектывізацыю і канаправаньне распыленых дробных бядняцкіх гаспадарак і забясьпечаньня пры дапамозе крэдыту ўжываньня бядняцкімі гаспадаркамі прасьцейшых агрыкультурных мерапрыемстваў, якія могуць даць значны ўздым ураджайнасьці,—Эканамічная Нарада пры СНК БССР п а с т а н а ў л я е:

1. Даручыць Беларускаму Сельскагаспадарчаму Банку пры крэдытаваньні беднаты як за кошт спэцыяльных фондаў, так і з агульных сродкаў сыстэмы—выдаваць крэдыт пераважна ў комплексным парадку (г. зн.—усіх вытворчых патрэб гаспадаркі) з тым, каб гэтым крэдытаваньнем утвараць ня толькі эканамічную базу для разьвіцьця таварнасьці гаспадаркі, але і спрыяць далейшаму вытворчаму капераваньню беднаты.

2. Прапанаваць Беларускаму Сельскагаспадарчаму Банку забясьпечыць льготнымі крэдытамі каляктыўныя гаспадаркі з беднякоў, а таксама паасобныя бядняцкія гаспадаркі, уступаючыя ў існуючыя ўжо каляктыўныя гаспадаркі, крэдытам на ўплату ўступных і паявых уносаў.

3. З мэтаю ўвязкі крэдытаваньня беднаты з агранамічнымі мерапрыемствамі, разьвіцьця больш высокіх тэхнічных і агрыкультурных спосабаў апрацоўкі глебы праз пераход ад паасобнай апрацоўкі да абагуленай, прапанаваць Беларускаму Сельскагаспадарчаму Банку крэдыты накіроўваць пераважна ў тыя бядняцкія гаспадаркі, у якіх Народны Камісарыят Земляробства і сельска-гаспадарчая капярацыя праводзяць тыя ці іншыя агрыкультурныя мерапрыемствы.

4. Даручыць Белсельбанку і Белсельсаюзу забясьпечыць у першую чаргу і на льготных умовах бядняцкія гаспадаркі сельска-гаспадарчымі машынамі, насеньнем, угнаеньнем і іншымі сродкамі вытворчасьці. Для больш карыснага скарыстаньня сельска-гаспадарчых машын садзейнічаць аб'яднаньню беднаты ў машынныя таварыствы.

5. Даручыць Беларускаму Саюзу сельска-гаспадарчай капярацыі, Беларускаму Сельскагаспадарчаму Банку і Народнаму Камісарыяту Гандлю пры правядзеньні кантрактацыі ў першую чаргу кантрактаваць у бядняцкіх гаспадарках. Сыстэме сельска-гаспадарчага крэдыту належыць забясьпечыць адпаведным крэдытам магчымасьць гэтым гаспадаркам выканаць умову па кантрактацыі праз забясьпечаньне неабходнымі для гэтага сродкамі вытворчасьці.

6. Пры крэдытаваньні на мэліярацыю ў першую чаргу забясьпечыць крэдытам мэліарацыйныя таварыствы з бядняцкім складам пайшчыкаў.

7. З мэтаю найбольш рацыянальнага скарыстаньня цягавай сілы і разьвіцьця сярод беднаты калектыўных навыкаў, даручыць Белсельбанку ў першую чаргу выдаваць крэдыт на мерапрыемствы па абагуленаму абслугоўваньню беднаты цягаваю сілаю (трактарныя калоны, конная цягавая сіла пры сялянскіх таварыствах узаемадапамогі і іншых арганізацыях, супрагі і інш.), а таксама спрыяць крэдытам пабудове беднатою абагуленых гаспадарчых будынкаў.

8. Бядняцкія гаспадаркі, атрымаўшыя крэдыт, павінны знаходзіцца пад сыстэматычным наглядам раённага агранамічнага пэрсаналу, мясцовых устаноў і арганізацый. Задачамі гэтага нагляду павінны зьявіцца: а) праверка скарыстаньня пазык па прызначэньню, б) выяўленьне далейшых бягучых вытворчых крэдытных патрэб, в) дача арганізацыйных і агрыкультурных паказаньняў па вядзеньню гаспадаркі, г) падлік эфэкту ў гаспадарцы ад пазыкі і г. д.

9. Папярэдні падбор паасобных бядняцкіх гаспадарак, якія маюць патрэбу ў розных відах дапамогі і іх падлік ускладаецца на сялянскія таварыствы ўзаемадапамогі, якія павінны шырока прыцягваць да гэтай працы самую беднату праз групы і сходы беднаты.

Старшыня Эканамічнай Нарады
пры СНК БССР *М. Карклін.*

Кіраўнік Спраў СНК і Эканамічнае
Нарады БССР *М. Калевіч.*

22 чэрвеня 1929 г.

---

## 2. Інструкцыя Камітэту па Будаўніцтву пры Эканамічнай Нарадзе БССР

**пра разьвіцьцё правіл пра парадак ужываньня дэфіцытных будаўнічых матар'ялаў і замену іх недэфіцытнымі, апублікаваных у Бюлетэні СНК БССР № 3 (62) 1929 г.**

### I. Агульныя патрабаваньні.

1. Усе дэфіцытныя матар'ялы павінны ўжывацца ў адносінах колькасьці і гатункаў у строгай адпаведнасьці з прызначэньнем пабудовы, дапасавальна да эканамічнай клясыфікацыі і намечаных тэрмінаў службы.

Праектаваньне пабудоў у адносінах ужываньня дэфіцытных будаўнічых матар'ялаў весьці ў наступнай паступовасьці:

а) досьледы форм і канструкцый з поўным адхіленьнем дэфіцытных матар'ялаў, з заменай іх пры адпаведных канструкцыйных спосабах матар'яламі недэфіцытнымі ці менш дэфіцытнымі;

б) досьледы форм і канструкцый з абмежаваньнем ужываньня дэфіцытных матар'ялаў, замены іх у некаторай, магчыма большай, частцы матар'ялмі недэфіцытнымі:

в) ужываньне дэфіцытных матар'ялаў у зьменшаных па магчымасьці разьмерах канструкцый і спосабаў правядзеньня будаўнічых работ.

### II. Ужываньне цамэнту і іншых зьвязваючых матар'ялаў.

2. Прапануецца ўжываць цамэнтныя рашчыны толькі ў прапорцыях і складах, якія патрабуе канструкцыя і якія зьяўляюцца ўмоваю якасьці цамэнту і інэртных прымешак і ні ў якім выпадку не дазваляецца ўжываньне рашчынаў больш тлустых, чым тыя, якія патрабуюцца тэхнічнай неабходнасьцю:

а) для расшыўкі знадворных швоў сьцен, за выключэньнем сьцен будынку ад вуліцы ў гарадзкіх цэнтрах;

б) для дэкаратыўнай апрацоўкі фасаду;

в) для штукатурных цяг унутры памяшканьняў;

г) для бэтонных падстаў пад падлогі, тратуары і інш., апроч дадаткаў у вышэйшыя слаі падрыхтовак, за выключэньнем выпадкаў, якія ставяцца ўмоваю спэцыяльнымі вытворчымі заданьнямі.

Кладку сьцен у раёнах, дзе маюцца ў наяўнасьці мясцовыя гідраўлічныя дадаткі, весьці на вапнавай рашчыне з гідраўлічнымі дабаўкамі. У раёнах, дзе няма мясцовых матар'ялаў з складу часьцей для прыгатаваньня такога роду рашчыны, кладку весьці на вапнавай рашчыне. У апошнім выпадку патрэбна, каб сьцены былі пабудаваны да восені, г. зн. пры ўмове вымярзаньня кладкі.

Дапушчаныя дазіроўкі гідраўлічных дадаткаў вызначаюцца ў залежнасьці ад уласьцівасьцяй вапны і гідраўлічных дабавак.

Для тэрма- і гукаізаляцыйных змазак замест цамэнтных і складаных рашчын ужываць выключна вапнавыя і алебастравыя рашчыны.

> *Увага.* У п. п. 5 і 6 „Правіл пра ўжываньне будаўнічых матар'ялаў" гранічную норму напружаньня на сьцісканьне 8 клг. на 1 кв. см. для кладкі на вапнавай рашчыне зьмяніць на 10 клг. для цаглянай кладкі, пакінуўшы 8 клг. для бутавой кладкі.

4. У мэтах памяншэньня колькасьці патрэбнага партландзкага цаманту для рашчыны пры штукатурцы сьцен, столяў і інш. элемэнтаў будынкаў, падпадаючых пад вільгаць, а таксама пры пабудове плоскіх дахаў, перакрыцьцяў двароў над складачнымі сутарэньнямі, вадасьцёкаў, вадазбораў, бакаў, ваданепрапушчальных падлог і інш.—ужываць апрабаваныя на вопыце дабаўкі, якія даюць рашчыне большую ваданепрапушчальную якасьць.

5. Ужываць партляндзкі цамэнт пры работах бэтонных і жалезабэтонных у прапорцыях і колькасьцях, якія вызначаюцца дзеючымі тэхнічнымі ўмовамі і нормамі праэктаваньня і пабудаваньня бэтонных і жалеза-бэтонных пабудоў, у адпаведнасьці з устаноўленымі маркамі бэтону і ў адпаведнасьці да клясыфікацыі пабудоў, зусім не дапушчаючы лішніх запасаў моцнасьці, якія не апраўдваюцца разьлікамі запасаў трываласьці.

6. Пры канструіраваньні перакрыцьцяў замяняць ва ўсіх тэхнічна магчымых выпадках жалеза-бэтонныя фэрмы драўлянымі, ня выключаючы і вялікіх пралётаў прамысловых будынкаў, і жалеза-бэтонныя паміжпаверхавыя перакрыцьці—драўлянымі ва ўсіх выпадках, калі гэта дапушчаецца прызначэньнем памяшканьня.

7. Апроч паказаных выпадкаў, ужываньне партландзкага цамэнту дапушчаецца:

а) для кладкі падмуркаў, калі грунт мокры, і для кладкі іншых частак пабудоў, якія падпадаюць пад вільгаць, пры напруджаньні да 10 клг. на 1 кв. см. кладкі з ужываньнем цамэнтавай рашчыны ў прапорцыі 1:6 і 1:7 або складаных у прапорцыі 1:3:12, а таксама з ужываньнем замест цамэнту гідраўлічных дабавак;

б) пры пабудове шматпаверхавых будынкаў, а таксама пры кладцы больш тонкіх або пустацелых сьцен, слупоў і вузкіх прасьценкаў з цэглы, у мэтах устойлівасьці і пры напруджаньні матар'ялу ў кладцы вышэй паказаных норм (10 клг.) з ужываньнем цамэнтавых рашчын 1:4 і 1:5 у залежнасьці ад напруджаньняў і магчымасьці няроўнамернай асадкі;

в) для кладкі каменных сьцен жылых будынкаў пры неабходнасьці засяленьня дому ў першую зіму, пры гэтым складаная рашчына не павінна быць тлусьцей 1:1:9 і 1:2:12;

г) пры пабудове з бэтону сходак, лесьвічных пляцовак і перакрыцьцяў лесьвічных клетак, калі гэта патрабуецца неабходнасьцю, абумоўленай дзейнымі будаўнічымі правіламі;

д) пры пабудове бэтоннай падставы пад падлогі на лагах першага паверху, калі грунт мокры.

8. Пры правядзеньні бэтонных і жалеза-бэтонных работ трэба пэрыядычна кантраляваць шляхам адпаведных досьледаў склад бэтону, вызначаючы і ўстанаўляючы прапорцыі ў залежнасьці ад якасьці і стану імпартных матар'ялаў, што ўжываюцца (пяску, гравію, друзу).

9. У мэтах больш правільнага скарыстаньня цамэнту на ўсіх работах ужываць мэханічныя бэтонамяшалкі, строга наглядаючы за належнай дазіроўкай складаных частак. На тых работах, дзе бэтонамяшалак няма, сухое зьмешваньне складаных частак рашчын павінна рабіцца цэнтралізавана. Забараняецца рыхтаваньне рашчыны кожным каменшчыкам паасобку.

10. Вапну, цамэнт, алябастр складаць і хаваць на месцы работ у зачыненых памяшканьнях, на драўляным насьціле з тым, каб іх можна было аглядаць.

У адносінах цамэнту прымаць патрэбныя меры для забясьпечаньня яго ад падмочак і раструскі.

Вапну хаваць у гашаным відзе. У выпадку патрэбы хаваньня нягашанай вапны, ужываць неабходныя меры супроць адвольнага тушэньня і самазапальваньня.

## III. Ужываньне мэталяў.

11. Забараняецца ўжываньне:

а) сартавога, дротавага, профільнага і іншых відаў жалеза, апроч цьвікоў і скоб для пабудовы ўсялякіх агароджаў, платоў і інш.;

б) арматурнага жалеза вялікіх дыамэтраў, замест разьмераў меншых, пры жалезабэтонных работах, без адпаведнага зьмяншэньня самага ліку прутоў, якое вызначаецца разьлікам;

в) цьвікоў вышэйшага разьмеру, чым тэхнічна патрэбна, і ў колькасьці большай, чым устаноўлена дзейнымі нормамі.

12. Замест жалезных і іншых відаў агнятрывалых дахаў, ужываць ва ўсіх, дапушчаных дзейнымі будаўнічымі правіламі выпадках пабудову дахаў з дрэва (цёс, гонт, шчапа, дранка і інш.).

13. Ва ўсіх выпадках ужываньня значнай колькасьці жалезных бэляк, абавязкова праверыць колькасьць разьлікам, а не дасьвядчальна і не дапушчаць лішніх, супроць разьліку, запасаў моцнасьці.

14. Пры пабудове буйных грамадзкіх будынкаў, а таксама ў будаўніцтве прамысловым і транспартным, замяняць ва ўсіх дапушчаных у залежнасьці ад назначэньня пабудоў, выпадках мэталёвыя кроквы драўлянымі. Неабходнасьць ужываньня ў асобных выпадках мэталёвых фэрм павінна быць асобна матывавана.

15. Пры заказах на заводах буйных партый жалезных кроквеных бэляк абавязкова паказваць дакладную праэктную іх даўжыню. Пры ўжываньні ў будаўніцтве жалезных бэляк звычайных рынačных разьмераў усямерна ўхіляцца ад нескарыстаньня абрэзкаў.

Ужываць усюды, дзе магчыма, электрычную і аўтагенную зварку матар'ялаў.

16. Прымаць неабходныя меры да пільнага хаваньня і падліку сартавога жалеза і катанкі на будаўніцтве.

## 14. Ужываньне лясных матар'ялаў.

17. Прапануецца ўжываць на будаўнічых работах высокагатунковыя лясныя матар'ялы (у асаблівасьці пілены лес) толькі ў тых мінімальных сячэньнях, якія патрэбны, пасьля праверкі разьлікам іх моцнасьці.

Ва ўсіх выпадках, калі гэта можна ажыцьцявіць па ўмовах наяўнасьці дастаткова сухога лесаматар'ялу, прапануецца ўжываць для пабудовы драўляных жылых і прамысловага назначэньня будынкаў замест рубленых сьцен з круглага лесу, каркасную стоечную ці фахверкавую сыстэму з скарыстаньнем найменшага, паводле разьліку, аб'ёму драўніны.

Выбар сыстэмы такога каркаснага будаўніцтва (стоечная, абшыўная тэрма-шчытамі, стоечная-засыпная і інш.) у кожным раёне павінен быць заснован на найбольш распаўсюджаных і апраўданых мясцовым вопытам конструкцыях з прыняцьцем патрэбных мер супроць разьвіцьця ў драўніне грыбка.

18. Апроч паказанага ў п. 13 „Правіл“ ужываньня яловага лесу для сьцен, замяняць хвою ельлю ва ўсіх мясцох, дзе гэта магчыма па тэхнічных патрабаваньнях. Прычым для сталярных вырабаў (унутраныя каробкі, зімнія пераплёты і ўнутраныя дзьверы) і для падлог ужываць ель толькі дробнаслойную.

*Увага.* У мясцох сырых ці якія падпадаюць пад пераменнае дзеяньне вільгаці для драўляных канструкцый ужываць хвою.

19. Будаўнічыя работы павінны быць арганізаваны такім парадкам, каб былі максымальна скарыстаны ўсе астачы, адкіды і адходы лясных матарыялаў (абрэзкі, апілкі і стружкі) і матарыялы ад разборкі рыштаваньняў, подмосьцяў, кружал і апалубкі, пры пабудове накатаў, столевых падшывак, тэрма-шчытоў, перагародак, крокваў і інш., а таксама, каб былі скарыстаны ў належных мясцох, бяз страты для якасьці работ, нізкія гатункі матарыялаў з мэханічнымі недахопамі (шчыліны, сукаватасьць, крываслой, крывізна і г. д.).

20. Замяняць ва ўсіх эканамічна апраўдваемых выпадках перагародкі з піленага ляснога матарыялу шлака-бэтоннымі, гіпсавымі, камышытавымі, з торпалеўму, сфагнуму і інш.

Выбар тых або іншых з паказаных канструкцый перагародак павінен засноўвацца на наяўнасьці матарыялаў (шлаку, алебастру) і на патрабаваньнях, пряд'яўляемых да перагародак (негукаправоднасьць, агнятрываласьць).

21. Пры невялікіх пралётах рэкамэндуецца ўжываць замест бэляк дошкі на рабро; пры пабудове крокваў замест бярвеньняў ужываць дошкі ва ўсіх выпадках, калі гэта па тэхнічных і эканамічных умовах будзе выгадным.

Перад ужываньнем у работу старанна сартаваць лясны матарыял і скарыстоўваць яго ў адпаведнасьці з прызначэньнем.

23. Ужываць наступныя меры да належнага хаваньня лясных матарыялаў:

а) бярвеньні складаць па гатунках і разьмерах у штабелі, з пракладкай паміж іх; штабелі ўкладаць на чыстым, сухім месцы, якое не парасло травой; ніжні шэраг павінен быць пакладзен на пракладках.

б) пілёны лесаматарыял складаць у штабелі па гатунках, правільнымі шэрагамі і з прамежкамі для праветрываньня; штабелі ад дажджу прыкрываць цёсам.

г) гонт, дрань, фанеру і інш. складаць і хаваць у зачыненых памяшканьнях ці пад паветкамі. Пры вялікіх пастаўках ляснога матарыялу штабелі ставіць з разрывамі паміж іх.

Лясныя матарыялы ў відзе адкідаў і адходаў, годныя да скарыстаньня, паводле § 19 гэтай інструкцыі, належыць зьбіраць і хаваць у вызначаным месцы.

### V. Ужываньне мясцовых і новых будаўнічых матарыялаў.

24. У мэтах скарачэньня дэфіцыту будаўнічых матарыялаў і патаненьня будаўніцтва, усім будаўнічым, будуючым арганізацыям і кіраўніцтвам акруговага будаўнічага кантролю прапануецца зьвярнуць асаблівую ўвагу на скарыстаньне мясцовых матарыялаў, якія могуць быць здабыты без спэцыяльных капіталаўкладаньняў сіламі самых будуючых ці будаўнічых арганізацый, а таксама на шырокае ўжываньне ў будаўніцтве новых, палегчаных будаўнічых матарыялаў, выробленых як фабрычна-заводзкім шляхам (порыста-гліняная цэгла, трэпельная цэгла, тарпяныя пліты, фібраліт і г. д.), так і саматужным шляхам (вапнава-шлакавыя каменьні, пемзавыя каменьні, сілікат, арганічныя блёкі і г. д.).

25. Усім будуючым і будаўнічым арганізацыям, а таксама прамысловай капярацыі, якія вырабляюць будаўнічыя матарыялы, прыняць усе захады да арганізацыі вытворчасьці новых будаўнічых матарыялаў, вытворчасьць якіх засноўваецца на мясцовай сыравіне, і папулярызаваць скарыстаньне маючайся прадукцыі новых будаўнічых матарыялаў.

### VI. Транспарт і хаваньне матарыялаў.

26. Апроч правядзеньня мерапрыемстваў, паказаных вышэй у адносінах да паасобных матарыялаў, прапануецца арганізацыям і ўстановам, якія транспартуюць і хаваюць будаўнічыя матарыялы, мець самы пільны нагляд за тым, каб пры запакоўках, перавозках, падносцы і перамяшчэньні матарыялаў, а таксама пры іх хаваньні на складах, былі-б дасягнуты магчыма меншыя траты, бой і іншыя натуральныя страты.

На акруговыя кіраўніцтвы будаўнічага кантролю ўскласьці нагляд за правядзеньнем у жыцьцё гэтай інструкцыі.

Старшыня Камітэту
па Будаўніцтву пры ЭКАНА БССР *А. Гейнэ.*

Члены Камітэту { *О. Краўзэ.* *Кавалёў.*

22 мая 1929 г.

---

## 3. Інструкцыя пра зьніжэньне кошту будаўніцтва БССР у будаўнічым сэзоне 1929 г.

**Выдаецца на падставе пастановы Эканамічнай Нарады пры СНК БССР за 18 мая 1929 г., у разьвіцьцё пастановы яе за 18 лютага 1929 г. „Аб патаненьні будаўніцтва ў будаўнічым сэзоне 1929 г.“.**

### РАЗЬДЗЕЛ А.

#### Агульныя паказаньні.

1. На падставе пастановы СПА за 21 сьнежня 1928 г. (З. З. СССР 1929 г. № 4, арт. 34) і для разьвіцьця пастановы Эканамічнай Нарады БССР за 18/II—1929 г., на працягу будаўнічага сэзону 1929 г. павінна быць дасягнута зьніжэньне сабекошту будаўніцтва ня менш як:

а) на 11% па жылішчнаму будаўніцтву і па пабудове будынкаў грамадзкага значэньня (школы, клюбы, больніцы і да т. п.) і б) на 15 % па прамысловаму будаўніцтву, па пабудове гандлёвых памяшканьняў, камунальных прадпрыемстваў, электрастанцый і да т. п.

2. Паказанае ў папярэднім пункце зьніжэньне робіцца, прыкладна, па групе „а"—6% пры праектаваньні і 5% пры правядзеньні работ і па групе „б"—8% пры праектаваньні і 7% пры правядзеньні работ. Але калі па якому-небудзь з гэтых элемэнтаў не ўдаецца дасягнуць выстарчальнага разьмеру зьніжэньня, то павінна быць зроблена адпаведна большае зьніжэньне па другому элемэнту з тым, каб агульнае зьніжэньня было ня ніжэй паказанага ў п. 1.

3. Абавязак зрабіць устаноўленае зьніжэньне кошту будаўніцтва, а таксама адказнасьць за правядзеньне яго ў належным разьмеры ўскладаецца на:

а) ведамства альбо ўстанову (заказчык), па крэдытах якога будуецца аб'ект

б) арганізацыю, якая праэктуе будаўнічы аб'ект (праэктыроўшчык);

в) арганізацыю, якая праводзіць будаўнічыя работы (будаўнік).

4. На праэктыроўшчыку ляжыць абавязак ажыцьцявіць частку зьніжэньня, якая аднесена ў арт. 2 да праэктыроўкі і пры падачы праэкту і растлумачальнай запіскі даць абгрунтаваньне зробленага зьніжэньня кошту будаўніцтва.

5. Заказчык абавязан пры складаньні заданьня зьнішчыць усялякія лішкі. Пры зацьверджаньні праэкту заказчык абавязан праверыць, ці дасягнута паказанае ў п. п. 2 і 4 зьніжэньне. Пры здачы работ падраднай будаўнічай арганізацыі на заказчыку ляжыць абавязак сачыць за тым, каб у дагаворных цэнах частка зьніжэньня кошту, аднесеная да правядзеньня работ, была прадугледжана.

6. Будаўнік абавязан правесьці ўсе мерапрыемствы па рацыяналізацыі правядзеньня і спосабаў работ, якія дапамагаюць падвышэньню вытворчасьці працы, уплатненьню працоўнага дня, скарачэньню прагулаў, а таксама мерапрыемствы па эканоміі пры хаваньні і выдаткаваньні матарыялаў, скарачэньню арганізацыйных выдаткаў. На будаўніку ляжыць абавязак ажыцьцявіць зьніжэньне кошту, якое аднесена да правядзеньня работ.

7. Высьвятленьне разьмераў дасягнутага зьніжэньня будаўніцтва павінна быць зроблена ў параўнаньні з коштам, які прыходзіцца на адну вытворчую адзінку (1 кв. мэтр жылплошчы, 1 вучня і да т. п.) данага аб'екту з сярэднім коштам вытворчых адзінак мінулага году таго-ж роду аб'ектаў, альбо ў параўнаньні кошту будаўнічых адзінак (куб. мэтр будынку).

8. Для будаўніцтва няскончанага, якое пераходзіць з мінулых гадоў, а таксама такога, для якога няма аналёгічнага аб'екту ў мінулым годзе, праверка зьніжэньня кошту павінна быць зроблена шляхам устанаўленьня таго, у якой меры ажыцьцёўлены паказаныя ў інструкцыях захады для патаненьня будаўніцтва.

## Праектаваньне.

9. Праграмы для складаньня праектаў, а таксама і самыя праекты будынкаў і пабудоў, якія намечаны да ажыцьцяўленьня, павінны быць у поўнай адпаведнасьці з эканамічнай клясыфікацыяй пабудоў, як у адносінах тэхнічных норм, запасаў трываласьці, выбару канструкцый і патрэбных матарыялаў, так і ў адносінах тэрмінаў службы праектуемага будынку альбо пабудовы.

10. Для скарачэньняў выдаткаў на праектаваньне і для скарыстаньня ў гэтых адносінах дасягненьняў, што ўжо ёсьць, належыць ва ўсіх адпаведных выпадках дапасоўваць тыпавыя праекты.

11. Пры праектаваньні ў адносінах да ўсіх пабудоў у цэлым і для паасобных яго частак павінны быць прыняты пад увагу ўсе моманты магчымага зьніжэньня будаўнічага і эксплёатацыйнага кошту праектуемага будынку альбо пабудовы як у адносінах архітэктурнага афармленьня, так і канструіраваньня данага будынку.

У прыватнасьці, трэба імкнуцца да найбольшай дазваляемай праектным заданьнем эканоміі ў плошчах вытворчых, жылых і службовых, максымальнага скарачэньня плошчаў дапамагальных і падсобных, скарачэньня аб'ёму будынку, які прыпадае на адзінку карыснай плошчы, скарачэньня колькасьці сьцен па плошчы і па пэрымэтру, якія прыпадаюць на адзінку аб'ёму, скарачэньня, у адпаведнасьці з правіламі і нормамі па жылішчнаму будаўніцтву, колькасьці асноўных і дапамагальных сходаў, магчымага спрашчэньня агульнай канфігурацыі застройкі, скарачэньня дапушчальных межаў усіх пралётаў для таго, каб можна было прыстасаваць найбольш спрошчаныя і палегчаныя канструкцыі, мэтазгоднага вызначэньня разьмераў ваконых праёмаў і сьветавых плошчаў, памяншэньня вышынь карысных і канструкцыйных для жылых будынкаў і патрабуемых вытворчымі габарытамі для прамысловых, найлепшага ва ўсіх адносінах скарыстаньня тэрыторыі забудоўкі вучастку з найменшымі затратамі на яго тэхнічнае абсталяваньне і да т. п.

Пры праектаваньні жылых дамоў рэкамэндуецца ажыцьцяўляць жылішчнае будаўніцтва пераважна буйнае, блочнае, з эканамічна найбольш выгаднай павярхоўнасьцю і максымальным аграмаджаньнем камунальнага абслугоўваньня (кухні, ванныя, душы, пральні, сталовыя, чытальні, клюбы, каператывы і інш.).

12. Для павялічэньня жылой плошчы рэкамэндуецца скарыстаць ўсюды, дзе гэта будзе магчыма, асабліва пры дахах з крутым пад'ёмам, паддахавыя памяшканьні для пабудовы мансардных жылых паверхаў, прыняўшы пад увагу неабходнасьць ўцяпленьня гэтых памяшканьняў.

13. Асноўная сыстэма канструкцыі ўсяго будынку ў паасобных яго дэталях павінна:

а) адпавядаць ў адносінах выбару запасу трываласьці, вызначэньня ступені даўгавечнасьці, пры максымальна магчымым забясьпечаньні агнятрываласьці і цеплавога рэжыму, асноўным прынцыпам эканамічнай клясыфікацыі пабудоў;

б) імкнуцца да патаненьня і рацыяналізацыі будаўніцтва;

в) адказваць назначэньню будынку, яго эксплёатацыйнаму рэжыму, мясцовым умовам правядзеньня будаўнічых работ з абавязковым максымальна магчымым скарыстаньнем мясцовых будаўнічых матарыялаў, больш танных парод (напрыклад, елка) і нізкіх сартоў лясных матарыялаў (сінява сплаўная, сучкаватасьць, косаслой і да т. п.);

г) адпавядаць тэрміну выкананьня работ.

Выбар сартымэнту матарыялу павінен быць дакладна ўстаноўлен з мэтаю памяншэньня вагі канструкцый, у залежнасьці ад нагрузак і інш.

14. Пры назначэньні паасобных канструкцыйных частак будынку належыць поўнасьцю скарыстаць ўсе тэхнічныя ўласьцівасьці матарыялаў, лічачыся з стандартнымі і ходавымі разьмерамі іх.

Пры наліччы вялікай прасторавай жорсткасьці (як, напрыклад, для жылых будынкаў звычайных тыпаў) дазваляецца не рабіць разьліку ўсяе сыстэмы будынку (у цэлым) на вецер.

15. Прапануецца ва ўсіх выпадках рабіць папярэдняе абсьледваньне грунту да распачацьця работы прасьцейшымі спосабамі (бурам, шчупам, студнямі, шурфамі); большае глыбокае абсьледваньне з дапамогаю бурэньня рабіць у выпадках, калі зьяўляецца сумненьне ў выстарчальнай моцнасьці мацерыковага слою.

16. Глыбіня закладаньня падмурку знадворных і ўнутраных сьцен павінна вызначацца ў залежнасьці: а) ад мясцовых умоў прамярзаньня грунту; б) ад прыродных уласьцівасьцяй грунту; в) ад рэжыму грунтавых вод і інш., не дапушчаючы пры гэтым нічым неапраўданага павялічэньня глыбіні.

Шырыня падмурку павінна быць строга вылічана, у залежнасьці ад уласьцівасьцяй грунту і дазволенай нагрузкі.

У выпадку эканамічнай мэтазгоднасьці належыць устанаўляць замест суцэльнага падмурку паасобныя слупы (калі гэта магчыма па ўмовах грунту і характару будынку).

Для будынкаў III катэгорыі (дрыўляныя, не забароненыя ад загараньня) рабіць суцэльны падмурак дазваляецца толькі з таннага мясцовага матарыялу, а за адсутнасьцю яго—толькі слупы.

> *Увага.* У выпадках, калі трэба закласьці падмурак у слабым грунце і з прычыны гэтага зрабіць значныя выдаткі, далёка перавышаючыя звычайныя выдаткі на пабудаваньне падмурку, належыць прадставіць абгрунтаваньне прынятай канструкцыі эканамічнымі і статычнымі разьлікамі. У сухіх грунтох прапануецца для невялікіх будынкаў, калі гэта эканамічна мэтазгодна, падмурак паглыбляць ня моцна, а будаваць штучную пяшчаную аснову.

Таўшчыню бутавых падмуркаў, якія нясуць толькі старчаковую нагрузку на ўсю глыбіню, дапушчаць на 10 см. больш таўшчыні надземнай сьцяны. Пашырэньне бутавай кладкі падмурку ўнізу (калі патрабуецца паменшыць напруджаньне на грунт) рабіць спадамі з адносінай вышыні да шырыні 3 : 2.

Калі трэба будзе падрыхтоўка пад падмурак, то яе належыць рабіць з бэтону на друзе з мясцовага штучнага каменя складу ня звыш 1 : 4 : 8. Той-жа склад павінен ужывацца і для бэтоннай падушкі, дзе яна будзе патрэбна.

18. Башмакі жалезабэтонных калён не апускаць на большую глыбіню ад падлогі, чым вышыня башмака, перадаўшы нацiск на грунт праз бутавую кладку альбо бэтон ніжэйшых марак (№№ 4 і 5).

19. Пры пабудове падмурку абавязкова прадугледзець неабходныя адтуліны для ўсякага роду падводак (апалу, асьвятленьня, каналізацыі, вадаправоду і да т. п.).

20. Ва ўсіх выпадках, пры захаваньні патрабаваньняў выстарчальнай трываласьці і тэрмічных уласьцівасьцяй матарыялаў, належыць канструкцыю знадворных і ўнутраных сьцен даводзіць да магчыма паменшаных разьмераў і не дапушчаць лішніх запасаў.

У гэтых мэтах прапануецца, дзе гэта толькі магчыма, ужываць для кладкі знадворных сьцен:

а) мясцовыя выкапныя будаўнічыя матарыялы (бут);

б) шлакабэтонныя і пустацелыя бэтоныя каменьні, саманную цэглу і інш.;

в) порыстую цэглу і камбінаваную кладку чырвонай будаўнічай цэглы з порыстай альбо пустацелай цэглай.

г) больш шырока ўжываць навейшыя будаўнічыя матарыялы і розныя вырабы з іх.

Разам з тым, рэкамэндуецца ўжываньне палегчаных канструкцый сьцен з чырвонай цэглы (Гэрард і інш.) і каркасных сыстэм з жалезабэтону, цэглы, фахверкавых сыстэм і да т. п.

Пры канструкцыі сьцен з паказаных вышэй больш лёгкіх будаўнічых матарыялаў і пры ўжываньні каркасных сыстэм з запаўненьнем порыстай цэглай, тэрмаблёкамі з сілікат-арганікаў, туфам, ракушнікам і да т. п. таўшчыня сьцен павінна быць у 30—50 см., у залежнасьці ад кліматычных умоў і прынятай канструкцыі.

*Увага.* Сілікатная цэгла прыроўніваецца як ў тэрмаізаляцыйных адносінах, так і ў адносінах трываласьці і па іншых тэхнічных умовах да чырвонай цэглы, апроч падмуркаў у памяшканьнях, якія падлягаюць бесьперапыннаму дзеяньню вадзяное пары, кладкі пячэй і дымаходаў і ў выпадку датычнасьці да водаў, якія маюць вуглякіслату.

Ва ўсіх выпадках ужываньня палегчаных цагляных канструкцый і замены цэглы іншымі матарыяламі належыць статычнымі і цеплатэхнічнымі разьлікамі праверыць рацыянальнасьць і надзейнасьць іх ва ўсіх адносінах, а таксама улічваць магчымасьць забясьпечаньня такіх работ вопытным тэхпэрсаналам і рабсілай.

21. Незалежна ад ліку паверхаў у будынку, не дапушчаць:

а) таўшчыні знадворных цагляных сьцен больш чым у $2^1/_2$ цэглы для жылых і грамадзкага значэньня будынкаў і больш чым у 2 цэглы для будынкаў прамысловага назначэньня, калі па спэцыяльных умовах самое вытворчасьці больш тоўстыя сьцены не патрэбны;

*Увага.* У залежнасьці ад мясцовага разьмяшчэньня пабудоў, у асаблівасьці ў паўднёвай і паўднёва-заходняй частках тэрыторыі БССР, для жылых і грамадзкага значэньня будынкаў будаваць знадворныя сьцены ў 2 цэглы.

Праектаваньне сьцен у $2^1/_2$ цэглы павінна быць матывавана ў растлумачальнай запісцы.

б) для ўнутраных капітальных сьцен у ніжніх паверхах таўшчыню больш, як $1^1/_2$ цэглы, а ў 2-х верхніх паверхах—больш, як у 1 цэглу;

в) для ўнутраных цагляных перагародак таўшчыню іх больш як ў $^1/_2$ цэглы, калі не патрэбна асобнай гукавай ізаляцыі; у апошнім выпадку ўжываць спэцыяльныя канструкцыі.

Пры неабходнасьці, па ўмовах трываласьці альбо ўстойлівасьці, большай супроць паказанай таўшчыні цагляных сьцен, належыць ужываць каркасную канструкцыю альбо кладку з палегчаных матарыялаў для верхніх паверхаў, альбо кладку ніжніх паверхаў весьці на цамэнтнай рашчыне.

Сьцены апальваемых лесьвічных клетак у шматпаверхавых будынках павінны мець таўшчыню ня больш 1 цэглы. Калі яны даходзяць да вышак, то павінны быць адпаведна ацеплены. Ва ўсіх выпадках, калі гэтыя сьцены, апроч уласнае вагі, нясуць нагрузку ад перакрыцьцяў альбо лесьвічных плашчадак, маршаў і інш., дапушчальная таўшчыня ўсяе сьцяны, часткі яе альбо слупоў вызначаецца разьлікам. Калі ў сьцяне праводзяцца каналы, то сьцяна ў мясцох разьмяшчэньня каналаў павінна быць патоўшчана адпаведна сячэньню канала.

22. Прапануецца палягчаць унутраныя цагляныя сьцены праёмамі і нішамі ва ўсіх выпадках, калі гэта па канструкцыйных умовах і па назначэньню памяшканьня магчыма. Унутраныя сьцены, апроч сьцен лесьвічных клетак і сьцен, у якіх праходзяць дымавыя і вэнтыляцый-

ныя каналы, не рабіць суцэльнымі, а канструіраваць каркасамі з палегчаным запаўненьнем.

23. Ужываньне жалезабэтоннага каркасу для жылых будынкаў дапушчаецца толькі пры пабудове 4-паверхавых і вышэй будынкаў. Для будынкаў ніжэй 4-х паверхаў рэкамэндуецца ўжываньне каркаснай сыстэмы з іншых матарыялаў (цагляныя слупы, фахверкавыя і г. д.) у залежнасьці ад эканамічнай мэтазгоднасьці.

24. Ніякіх патоўшчаньняў сьцен для будынкаў жылых і прамысловых, што выклікаюцца толькі архітэктурнымі меркаваньнямі, не дазваляецца.

25. Забараняецца ўвядзеньне жалезных сувязяй у цагляныя сьцены. Колькасьць анкераў на столевых жалезных бэльках абмяжоўваецца інтэрваламі ня менш 5 мэтраў.

Закладка бэляк у сьцены дазваляецца, прыкладна, на 25 см.

У адказных мясцох кладкі (куты, стыканьні ўнутраных сьцен з знадворнымі), дзе патрэбна ўстаноўка сувязяй і могуць зьявіцца расьцягваючыя напруджаньні, замяняць масыўныя сувязі пракладкай у швох на цамэнтавай рашчыне лёгкай арматуры з недакату і бракованага жалеза.

26. Замест літага асфальту ў тых выпадках, калі дастаўка асфальту на пабудову зьяўляецца немагчымай, для ізаляцыі сьцен трэба ўжываць больш танныя матарыялы, як: укладаць слой цамэнтавай рашчыны 1 : 2, таўшчынёю 15 м/м з дабаўленьнем ваданепранікаючых прымешак (цэразіт, гідразіт і інш.) альбо два слаі толя па паверхні, зацёртай цамэнтам і г. д.

Для ізаляцыі знадворных паверхняй сьцен падвальных памяшканьняў можа ўжывацца цамэнтавая рашчына 1 : 3 з дабаўленьнем ваданепранікаючых дабавак, а пры сухіх пяшчаных грунтох можа быць дапушчана ўкладка слоя трамбаванай гліны на таўшчыню 20—30 см.

27. У тых выпадках, калі спэцыяльнымі тэхнічнымі правіламі не патрабуецца абавязковае ўжываньне агнятрывалых перакрыцьцяў, трэба ўжываць драўляныя бэлькі з бярвеньняў, дошчак, складзеных з распілу, развалу, пласьцін альбо з дошчак на цьвіках і г. д. Разам з хвояй дазваляецца ўжываньне елкі для ўсіх частак перакрыцьцяў і насьцілу падлог. Ужываньне яловых бэляк у перакрыцьцях дазваляецца толькі пры нязначных пралётах.

28. Усямерна палягчаць уласную вагу перакрыцьцяў, назначаючы для засыпкі, разам з сухім прасеяным будаўнічым мусарам бяз шчэпак і арганічных матэрый, лёгкія матарыялы пераважна з мясцовых танных парод (апілкі з алябастрам, торп, сфагнум, саламіт з прымешкай алябастру і інш.).

29. Пры ўжываньні шпунтаваных дошчак для падлог жылых будынкаў таўшчыня іх павінна быць ня больш 3,5 см., пры ўжываньні няшпунтаваных—ня больш 5 см.

30. Пры пабудаваньні жалезабэтонных перакрыцьцяў адлегласьці паміж бэлькамі вызначаць з умовы, каб таўшчыня пліты з літага альбо пласьціначнага бэтону ў выпадках, калі яна нічым не абаронена ад агня, была 7—8 см.; у выпадках, калі яна абаронена штукатуркаю па сетцы альбо іншымі спосабамі—у межах 5 см. Уводзіць, па магчымасьці, ужываньне бэтону маркі ня ніжэй № 2.

31. Пры пабудаваньні агнятрывалага перакрыцьця па жалезных бэльках, дзе гэта магчыма і дзе гэта не вядзе да павялічэньня вагі і падаражаньня канструкцыі будынку ў цэлым, даваць перавагу бэтонным скляпеньням паміж бэлькамі альбо скляпеньням з пустацелае цэглы замест суцэльнай жалезабэтоннай пліты паверх бэляк.

Для гэтых бэтонных скляпеньняў ужываць бэтоны маркі № 4 і № 5.

32. Для перакрыцьця вышкаў жылых будынкаў трэба ўжываць насlоныя кроквы, а не вісячыя, апроч выключных выпадкаў, што выклікаюцца канструкцыйнымі ўмовамі.

33. Як правіла, кроквы ў жылых будынках ужываюцца драўляныя, (можна і яловыя), з мінімумам мэталёвых цаковак. Павінны быць шырока скарыстаны злучэньні на цьвікох, нагелях і дымагарных трубках. Побач з ужываньнем дашчатых крокваў прапануецца ўжываць эканамічныя кроквы з больш тонкага круглага лесу альбо з брускоў з невялікімі сячэньнямі.

34. Мэталёвыя кроквы забараняюцца да ўжываньня для пралётаў менш 20 м. і павінны замяняцца жалезабэтоннымі альбо драўлянымі ў залежнасьці ад эканамічнай мэтазгоднасьці.

*Увага.* Тэхнічныя ўмовы і нормы для канструкцыі мансардаў, а таксама разьмеры драўляных крокваў будуць выданы асобна.

35. Ужываць канструкцыі з гатунковага і профільнага жалеза для пабудовы сьветавых ліхтароў, рам і пераплётаў толькі для вялікіх шкляных перакрыцьцяў, выклікаемых прызначэньнем памяшканьняў, замяняючы мэталь ва ўсіх магчымых выпадках дрэвам, а пры вялікіх пераплётах—жалезабэтонам.

36. Цэлыя мэталёвыя канструкцыі ў выглядзе каркасаў альбо рам дазваляць толькі ў зусім выключных выпадках, пры поўнай немагчымасьці альбо яўнай тэхнічнай нямэтазгоднасьці замены мэталёвых канструкцый жалезабэтоннымі, каменнымі альбо якімі-небудзь падобнымі канструкцыямі.

Замест жалезабэтонных і мэталёвых ваконных пераплётаў рэкамэндуецца ўжываньне драўляных альбо дрэвабэтонных пераплётаў стандартнага тыпу.

37. Замест таго, каб рабіць ваконныя каробкі звычайнага тыпу, рэкамэндуецца ўжываць каробкі з дошчак і ўстанаўляць такія бяз чэцьвярцей у кладцы сьцяны. Разам з тым, дзе магчыма, ужываць ваконныя пераплёты без закладных і прыслонных рам.

38. Прапануецца ўжываньне жалезацагляных перамычак, замест жалезабэтонных альбо двухтаўравых бэляк ва ўсіх магчымых выпадках.

39. Для пабудаваньня дымаходаў і вэнтыляцыйных каналаў прапануецца выкарыстоўваць сьцены, калёны і іншыя пустацелыя канструкцыі.

40. Прылады мясцовага апалу (печы) у жылых дамох павінны быць, па магчымасьці, лёгкімі, сярэдняй і малай цёплаёмістасьці, у залежнасьці ад мясцовых умоў.

41. Кладку сьцен каменных будынкаў рабіць без знадворных каранных рыштаваньняў, вядучы працу пераважна ўнутры з насьцілам па паміжпаверхавых перакрыцьцях, абмяжоўваючыся ўжываньнем стрэмянак для перамяшчэньня рабочых у лесьвічных клетках і падачай матарыялаў па паверхах мэханічным парадкам з дапасаваньнем блёкаў, кранаў, пад'ёмнікаў і г. д.

Рэкамэндуецца таксама ўжываньне сыстэмы разборных і перасоўных лясоў.

42. Пры кладцы сьцен без асноўных каранных рыштаваньняў дазваляецца ўжываньне розных сыстэм перасоўных разборных рыштаваньняў як падвесных на выпушчаных кансолях і выпускных, гэтак і башанных, лесьвічных і г. д.

## РАЗЬДЗЕЛ Б.

### Тэхнічныя нормы.

(*Нагрузкі і запасы трываласьці*).

43. Пры статычным разьліку канструкцый у будынках і пабудовах трэба кіравацца нормамі нагрузак, запасаў трываласьці і тэхнічнымі правіламі, паказанымі ў наступных параграфах.

### Нагрузкі.

44. Карысная часовая нагрузка прымаецца:

1) Для вышкавых перакрыцьцяў у залежнасьці ад паверхні і характару будынкаў 75—100 кг/м².

2) Для паміжпаверхавых перакрыцьцяў жылых памяшканьняў і бальнічных палат—150 кг/м².

3) Таксама для клясных памяшканьняў, амбуляторый, службовых памяшканьняў і кантор без вялікага накапленьня наведвальнікаў—200 кг/м².

4) Таксама для службовых і канторскіх памяшканьняў, грамадзкіх сталовых, клюбных памяшканьняў (апроч агульных заляў і файе, прадугледжан. у п. 5 і г. д.) з мяркуемым вялікім накапленьнем наведвальнікаў і невялікіх бібліятэк з шафамі каля капітальных сьцен—300 кг/м².

5) Таксама для памяшканьняў народных сходаў, агульных заляў клюбаў, глядзельных і фізкультурных, тэатраў, кіно, канцэртных і танцавальных заляў, файе, вакзальных памяшканьняў, магазынаў і калідораў грамадзкіх будынкаў—350 кг/м².

6) Для заводзкіх, фабрычных таварных складаў, вытворчых і тэхнічных памяшканьняў, грамадзкіх бібліатэк, архіваў і да т. п. памяшканьняў спэцыяльнага прызначэньня нормы не ўстанаўляюцца, а вылічваюцца па асобнаму разьліку, адпаведна заданьню, пры гэтым плошчы перакрыцьцяў, якія ня маюць спэцыяльнай вытворчай нагрузкі, вылічваюцца па норме ў залежнасьці ад прызначэньня ў 200—250 кг/м², за выключэньнем месц вялікага накапленьня людзей (ля ўваходу на лесьвіцы і інш.), якія вылічваюцца па норме ў 300 кг/м².

7) Для перакрыцьцяў, што даступны натоўпу людзей (бальконы, пераходы):

а) для жылых будынкаў, грамадзкіх будынкаў . . . . 350 кг/м²
б) для будынкаў, памянёных у п. 5 . . . . . . . . . . . 450 „

8) Для лесьвіц у жылых дамох і інтэрнатах:

а) для будынкаў у 3 паверхі і ніжэй . . . . . . . . 250 „
б) „ „ вышэй 3 паверхаў . . . . . . . . . . 300 „

9) Для лесьвіц і будынкаў, паказаных у п, 3, 4, 5, 6 . 400 „

*Увага.* У выпадку, калі вышэй паказаныя пабудовы (вышкі, лесьвіцы і г. д). маюць асобнае прызначэньне, то нагрузка для іх вызначаецца без паказаных норм па асобнаму разьліку ў адпаведнасьці з спэцыяльным заданьнем.

10) Для перакрыцьцяў, якія падлягаюць нагрузкам ад аўтамабіляў, экіпажаў, вагонаў трамваю і інш.—яны вызначаюцца па нормах НКШ і мясцовых дарожных і камунальных аддзелаў.

Пры разьліку калёны грамадзянскіх пабудоў, карысная нагрузка на яе вызначаецца з разьліку прыпадаючай на калёну грузавой плошчы, без падліку неразрэзнасьці канструкцый перакрыцьця.

46. Пры разьліку калён і нясучых сьцен карысная часовая нагрузка, апроч паказанай у п. 9 параграфу 44, прымаецца ў разьмеры:

а) для вышкавых памяшканьняў і верхняга паверху . . 100 %
б) для другога паверху зьверху . . . . . . . . . . . . 80 „
в) „ трэцяга паверу „ . . . . . . . . . . . . 60 „
г) „ чацьвертага і астатніх паверхаў . . . . . . . . . 40 „

Пры разьліках вытворчых, тэхнічных і д. г. п. будынкаў, карысная нагрузка перадаецца на калёны, сьцены і падмуркі поўнасьцю.

47. Пры разьліку бэляк, якія падтрымліваюць падлогавы насьціл, нагрузка паніжаецца на 20% супроць норм, вызначаных у параграфе 44, апроч п. 6 гэтага параграфу.

48. Нагрузка ад уласнай вагі канструкцый вызначаецца па сапраўднай вазе іх.

49. Для будынкаў і пабудоў, што падпадаюць пад страсаньні, велічыня карыснай нагрузкі ад спэцыяльных установак павялічваецца памножаньнем на дынамічны каэфіцыэнт:

а) для пабудоў і будынкаў, у якіх адбываецца транспартаваньне цяжараў альбо ўстаноўлены добра ўраўнаважаныя машыны, 1,10—1,30;

б) для будынкаў і пабудоў, што падлягаюць сталым штуршкам і ўдарам (неўраўнаважаныя машыны, разгрузачныя пляцоўкі з перакідваючыміся ваганеткамі і г. д.)—1,30—1,50.

*Увага*. 1. Велічыня каэфіцыэнту вызначаецца ў залежнасьці ад характару работы машыны.

*Увага*. 2. Уплыў дадатковай нагрузкі, які ўлічваецца шляхам увядзеньня дынамічнага каэфіцыэнту для выпадку „а“, не распаўсюджваецца далей калёны і сьцяны ніжэйляжачага паверху, і для выпадку „б“ распаўсюджваецца данізу, але з падлікам паніжэньня каэфіцыэнту па § 46.

*Увага* 3. Дынамічны каэфіцыэнт, які ўлічвае страсаньні пры транспартыроўцы цяжараў, прымаецца ў разьлік толькі ў тым выпадку, калі разьліковая карысная нагрузка менш 600 кг/м².

50. Сьнегавая нагрузка вылічаецца на нормах Дзяржпляну СССР, паніжаючы гэтакія на 10% і лічачы яе на 1 кв. м. паземнай праекцыі ўспрыймаючай паверхні.

51. У населеных пунктах, а таксама для асобных будынкаў, дзе ёсьць нагляд за дахамі, сьнегавая нагрузка паніжаецца яшчэ на 10% супроць устаноўленай у § 50 нормы.

52. Націск ветру на 1 кв. м. простападнай плошчы, простастаўнай напрамку ветру і разьмешчанай на вышыні h мэтраў ад паверхні зямлі прымаецца па формуле: $p = p_0(1 + 0.01h)$, дзе h—вышыня паверхні зямлі да цэнтру цяжкасьці пляцоўкі, падлягаючай націску ветру, а $p_0$ бярэцца па табліцы N 5 норм Дзяржпляну. Для прамысловагага будаўніцтва належыць кіравацца загадам ВСНГ СССР № 84—1928 г. („Торг. Пром. Газета“ № 257—1928 г.).

Націск ветру на наклонную паземную плошчу пад кутам $\alpha$ прымаецца нармальна да такой і вылічаецца па формуле:

$$B = p_0 \mathrm{Sin}^2\alpha$$

дзе $p_0$—велічыня даўленьня ветру, вызначаная па § 52, а $\alpha$—кут наклону плошчы да кругавіду.

*Увага*. Для спэцыяльных пабудоў, а таксама ў тых выпадках: а) калі можа мець месца падсасваючая дзейнасьць ветру, б) калі

магчыма дапусьціць зьмяншэньне ветру ў выніку крывалінейнасьці паверхні (каэфіцыэнт абцяканьня) і в) калі ўспрыймаючая паверхня рашотчатая—пры вызначэньні ветравай нагрузкі кіравацца спэцыяльнымі тэхнічнымі нормамі (Галоўэлектра, ЦАГІ, НКШ і г. д.).

53. Пры разьліку на сумесную дзейнасьць ветру і сьнегу кожная з нагрузак, вызначаных па адпаведных параграфах, паніжаецца на 30%.

54. Пры разьліку канструкцый на вецер павінна быць улічана агульная прасторавая жорсткасьць пабудовы ў цэлым, шляхам перадачы націскаў праз паміжпаверхавыя перакрыцьці на тарцавыя сьцены, лесьвічныя клеткі, прамяжутачныя сьцены і г. д. Пры праэктаваньні будынкаў і пабудоў з вялікай працяжнасьпю праэктыроўшчык і канструктар павінны выкарыстаць усе магчымасьці для таго, каб дадаць пабудове найбольшую жорсткасьць у цэлым бяз шкоды для рацыяналізацыі пляну і эканамічнасьці будовы.

## Дапушчаныя даўленьні на грунт.

55. Дапушчаныя даўленьні на грунт прымаюцца:

| | |
|---|---|
| 1) для цьвёрдага скалістага грунту (плутанічнага пахаджэньня) . . . . . . . . . . . | 25 да 40 кг/см² |
| 2) для скалістага грунту асадачнага пахаджэньня (пяшчанікі, вапнякі) . . . . . . . . . . | 15 „ 30 „ |
| 3) для гліны мацерыковай (юрская і падобных фармацый) . . . . . . . . . . . . . | 7 „ 8 „ |
| 4) для буйнага гравія, які шчыльна зьляжаўся . | 6 „ — „ |
| 5) для дробнага гравія і шчыльназьляжаўшагася буйнага пяску . . . . . . . . . . . | 5 |
| 6) для шчыльназьляжаўшайся сухой гліны . . | 5 |
| 7) для пяску, які шчыльна зьляжаўся, сярэдняй буйнасьці і з прыроднай вільготнасьцю . . . | 4 |
| 8) таксама для вільготнага . . . . . . . . . | 3 |
| 9) для пяску дробнага, шчыльнага і шчыльных сухіх суглінкаў і супяскоў . . . . . . . . | 3 |
| 10) для грунтаў, паказаных у п. 9, з натуральнай вільготнасьцю . . . . . . . . . . . . . | 2,5 |
| 11) для шчыльназьляжаўшагася грунту з будаўнічым мусарам (друз і г. д., але бяз шчэпак і арганічных прымешак натуральнай вільготнасьці і глеістага сухога пяску . . . . . | 2 |
| 12) для грунтаў, паказаных у п. 9, але вільготных | 2 |
| 13) для грунтаў, паказаных у п. 9, але мокрых | 1,5 |
| 14) для слабых суглінкаў і супяскоў, насычаных вадой . . . . . . . . . . . . . . . . | 1 |
| 15) для глею дробнага, насычанага вадой (плывун) | 0,5 да 0,7. |

Магутнасьць слояў грунту павінна быць пры дапасаваньні паказаных вышэй норм ня менш 1-2 мэтраў, у залежнасьці ад грунту падсьцілаючых яго слояў і ступені адказнасьці пабудоў.

*Увага.* Для адказных пабудоў, а таксама ў выпадку няясьнасьці грунту, прыведзеныя дапушчаныя націскі павінны быць правераны шляхам іспыту спробнай нагрузкі.

Пры прадстаўленьні праектаў у зацьвярджаючыя інстанцыі павінны быць прадстаўлены ў выпадку патрэбы зьвесткі аб характары грунту.

56. Пры паглыбленьні падашвы падмурку ніжэй 2 мэтраў ад паверхні зямлі дапушчаныя націскі на грунт падвышаюцца па формуле

$$p=\frac{P(h-2)}{10.000}$$

дзе P—вага аднаго куб. мэтру у кг. і h—глыбіня закладкі падмурку ў мэтрах.

57. Глыбіня закладкі падмурку асобна стаячых частак пабудоў (устоі, калёны і г. д.) вызначаецца па формуле Паўкера:

$$h=\frac{n}{g}tg^4\left(45\frac{\varphi}{2}\right)S$$

дзе h вышукваемая глыбіня закладкі; n—даўленьне на грунт; g—вага адзінка аб'ёму грунту і φ—кут сапраўднага адкосу грунту, S—каэфіцыэнт запасу, які заўсёды прымаецца за адзінку, але ў асобных выпадках падвышаемы да 1,25 па патрабаваньнях КБК (напрыклад, пры слабых грунтох, моцным падпоры грунтавых вод і г. д.)

Пры наліччы моцнай бэтоннай падлогі ў сутарэньні, каэфіцыэнт можа быць паніжаны да 0,75.

Пры вызначэньні глыбіні закладкі падмурку для сьцен сутарэньняў можна не карыстацца формулай Паўкера, а глыбіню вылічыць па патрабуемай плошчы асновы, разьлічанай з дазваляемых даўленьняў на грунт і па куту пашырэньня даўленьня ў кладцы падмурку, але паказаная глыбіня павінна быць ня менш 0,4—0,5 мэтры ад узроўню падлогі сутарэньня, у залежнасьці ад таўшчыні падлогі і падрыхтоўкі да яе.

## Дапушчаныя напруджаньні матарыялаў.

58. Дапушчаныя напруджаньні вызначаюцца часовым супраціўленьнем матарыялаў, шляхам дзяленьня іх на ўстанаўляемыя ў залежнасьці ад клясы пабудовы каэфіцыенты запасаў трываласьці.

59. Часовае супраціўленьне асноўных матарыялаў:

| НАЗВА МАТАРЫЯЛАЎ | Часовыя супраціўленьні | | |
|---|---|---|---|
| | Расьцяжэньне | Сьціскаsuccessьне | Зрушэньне |
| 1. Дрэва хваёвых парод удоль валакон. . | 600 | 300 | 50 |
| 2. Дрэва хваёвых парод поперак валакон . | 100 | 50 | 120 |
| 3. Дрэва дубовых парод удоль валакон. . | 900 | 450 | 75 |
| 4. Дрэва дубовых парод поперак валакон . | 200 | 150 | 200 |
| 5. Цагляная кладка на вапнянай рашчыне . | 3 | 60 | 7,5 |
| 6. Цагляная кладка на мяшанай рашчыне 1:1:9. | 4,5 | 70 | 8,5 |
| 7. Цагляная кладка на цамэнтавай рашчыне 1:5. | 6,5 | 90 | 9,5 |
| 8. Бутавая кладка на вапнавай рашчыне 1:1:9. | 3 | 50 | 4,5 |
| 9. Бутавая кладка на мяшанай рашчыне . | 4,5 | 60 | 6,5 |
| 10. Бутавая кладка на цамэнтавай рашчыне 1:5. | 6 | 70 | 9 |
| 11. Бэтон маркі 1 праз 28 дзён . . . | 20 | 200 | 30 |
| 12. „ „ 2 „ „ „ . . . | 18 | 180 | 27 |
| 13. „ „ 3 „ „ „ . . . | 14 | 140 | 21 |
| 14. „ „ 4 „ „ „ . . . | 10 | 100 | 15 |
| 15. „ „ 5 „ „ „ . . . | 8 | 80 | 12 |
| 16. Бэтон на цагляным друзе 1 : 4 : 8 . . | 7 | 80 | 10,5 |
| 17. Жалеза (гандлёвае, не маркаванае) . . | 3600 | 3600 | 2880 |

*Увага*. Для жалеза маркаванага часовае супраціўленьне бярэцца па даных заводу.

60. Каэфіцыэнты запасаў трываласьці для першай і другой клясы пабудоў, а іменна: манумэнтальныя пабудовы, якія разьлічаны на асобную доўгавечнасьць—больш 60 год, і капітальнае будаўніцтва—жылішчнае, камунальнае, адміністрацыйнае, бальнічнае, культурна-асьветнае, склады магістральных шляхоў зносін і інш., з разьлікам на тэрмін эксплёатацыі больш 40 год:

| НАЗВА МАТАРЫЯЛАЎ | Каэфіцыэнты запасаў трываласьці. | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Асноўныя на: | | | Згіб на: | | |
| | Расьц. | Сьціс-каньне | Зру-шэньне | Расьц. | Сьціс-каньне | Зру-шэньне |
| Дрэва ўдоль валакон | 5 | 3 | 3 | 6 | 3 | 3 |
| „ поперак валакон | 10 | 3,5 | 3,5 | 10 | 4 | — |
| Жалеза і сталь | 3 | 3 | 3 | 3 | 3 | 3 |
| Бэтон і жалеза-бэтон | 10 | 4 | 4 | 4 | 3,5 | 4 |
| Цагляная, бутавая і бэтонная кладка | 10 | 6 | 6 | 6 | 5 | 5 |

*Увага.* Аднясеньне будынкаў да першай і другой клясы пабудоў адзначаецца ў тытульных сьпісках і зацьвярджаецца Камітэтам па Будаўніцтву пры ЭКАНА БССР.

61. Для 3-й клясы пабудоў, а іменна: сталае, але нядоўгавечнае будаўніцтва, прамысловае, палегчанае, жыльлёвае і інш. з разьлікам на тэрмін эксплёатацыі да 40 год, паказаныя ў § 60 запасы трываласьці памяншаюцца на 20%.

Для 4-е клясы, а іменна: часовыя пабудовы, разьлічаныя на тэрмін эксплёатацыі да 10 год і дапаможныя пабудовы часовага характару, як: рыштаваньні, падмосьці, апалубка і г. д.—запасы трываласьці памяншаюцца на 35% супроць норм, паказаных у § 60.

*Увага.* Разьмеры ўсіх частак рыштаваньняў, кружал, прагонаў насьцілу, апалубкі і інш. у адпаведных выпадках вызначаюцца разьлікам па нормах для пабудоў 4-е клясы замест разьмераў, паказаных у п. п. 131, 132, 133 і 134 Урочн. Палаж.

62. Пры разьліку арматуры ў жалезабэтонных канструкцыях і пабудовах першае і другое класы каэфіцыэнт запасу трываласьці для жалеза паніжаецца:

а) для буйнага жалеза таўшчынёю да 12 мм на 10%,

б) „ дробнага „ таней за 12 мм на 20%.

63. Хістаньні ў той або іншы бок паміж напруджаньнямі, вызначанымі разьлікам і дапушчанымі напруджаньнямі, не павінны перавышаць 5%.

Калі-ж неданапруджаньне матарыялаў канструкцыі, што вылічаецца, выклікаецца тэхнічнымі патрэбамі, як: цеплаправоднасьць, гука-і газанепранікліваасьць, устойлівасьць, жорсткасьць, стандартнасьць, поўнае скарыстаньне больш дарагіх або дэфіцытных матарыялаў, то неданапруджаньне матарыялаў павінна быць матывавана і абгрунтована з тэхнічнага і эканамічнага боку.

Павялічэньне разьмераў канструкцыі ў запас (патоўшчаньне цагляных слупоў і г. д.) на выпадак пажараў і да т. п. стыхійных няшчасьцяў не дазваляецца.

64. Паказаныя вышэй дапушчаныя напруджаньні прымаюцца пры вылічэньні элемэнтаў канструкцыі на дзеяньне ўласнае вагі, карыснай нагрузкі і сьнегу. Пры вылічэньні-ж на дзеяньне вышэйпаказаных нагрузак разам з адным з дадатковых фактараў, як: дзеяньне ветру, хістаньне тэмпэратуры, усадка бэтону і асадка апор, дапушчаныя напруджаньні павялічваюцца на 20%.

Пры падліку адначасовага дзеяньня ўсіх паказаных вышей нагрузак і фактараў дапушчаныя напруджаньні павялічваюцца на 50% з тым, аднак, што напруджаньні ад уласнае вагі, карыснай нагрузкі і сьнегу, вылічаныя асобна, не павінны перавышаць дапушчаных.

65. Пры вылічэньні неразрэзных пліт, бэляк, рабрыстых перакрыцьцяў і да т. п. пры ўстанаўленьні ўплыву на вылічваемы пралёт загружаньня часовай нагрузкай і іншых пралётаў, як агульнае правіла, не дазваляць праблематычнага разьмяшчэньня яе, што ня можа мець месца ў звычайных умовах.

У асабліва-ж адказных частках канструкцый павінна падлічвацца і такое разьмяшчэньне нагрузак у іншых пралётах, якое дае максымальнае значэньне для вылічваемага фактару (момант, папярэчная сіла і да т. п.). У такіх выпадках дазваляемае напруджаньне можа быць павялічана, але ня больш як на 20% норм, устаноўленых гэтымі правіламі.

66. Калі разьмеры канструкцый вызначаюцца з разьліку перакульваньня, то каэфіцыэнт устойлівасьці прымаць за 1,40, апроч выпадкаў, калі ў тэхнічных умовах па праектаваньню данае пабудовы маюцца спэцыяльныя паказаньні.

67. Разьлік канструкцыі павінен праводзіцца паводле палажэньняў будаўнічай мэханікі з падлікам навейшых дасягненьняў у гэтай галіне.

У мэтах скарачэньня выкладак рэкамэндуецца карыстацца гатовымі табліцамі, графікамі і да т. п.

Дакладнасьць разьлікаў і выкладак павінна адпавядаць прынятай велічыне каэфіцыэнту запасу трываласьці—чым менш запас трываласьці, тым дакладней павінен быць разьлік.

68. Пры пабудове адказных будынкаў і канструкцый належыць рабіць іспыт матар'ялаў для устанаўленьня адпаведнасьці іх сапраўдных уласьцівасьцяй да прынятых ў разьліках, калі няма адпаведных даных заводу.

69. Належыць зварочваць асаблівую ўвагу на правільную дазіроўку матарыялаў—рашчынаў, бэтону і да т. п., у адпаведнасьці з напруджаньнямі, якія вылічваюцца, і з разьдзелам А гэтай інструкцыі. Памагчымасьці павінны быць скарыстаны мэтады Абрамса, Графа і да т. п.

Старшыня Камітэту па Будаўніцтву
пры Эканамічнай Нарадзе БССР *А. Гейне.*

Члены Камітэту { *О. Краўзэ.* *Кавалёў.*

22 мая 1929 г.

## 4. Абежнік Камітэту па Будаўніцтву пры Эканамічнай Нарадзе БССР

**пра ўжываньне інструкцыі Камісіі па Будаўніцтву пры Савеце Працы і Абароны аб намэнклятуры выдаткаў па будаўніцтву, парадку іх вылічэньня і аб гранічных разьмерах гэтых выдаткаў.**

*Усім будаўнічым установам і арганізацыям.*

I. На падставе выданай Камісіяй па Будаўніцтву пры Савеце Працы і Абароны інструкцыі аб намэнклятуры выдаткаў па будаўніцтву, парадку іх вылічэньня і падліку і аб гранічных разьмерах гэтых выдаткаў (апублікавана ў газ. „Экономическая Жизнь“ №№ 5, 8 і 9 за 1929 год), Камітэт па Будаўніцтву пры Эканамічнай Нарадзе БССР прапануе ўсім дзяржаўным, грамадзкім і каперацыйным установам і прадпрыемствам, а таксама акцыйным таварыствам (паявым таварыствам) з выключным ці пераважным удзелам дзяржаўнага ці каперацыйнага капіталу, кіравацца памянёнаю вышэй інструкцыяй з бягучага 1929-30 бюджэтнага году і ўстанавіць бухгальтарскае рахункаводзтва ў строгай адпаведнасьці з прынятай у інструкцыі намэнклятурай.

II. У выпадку, калі памянёныя ў п. I установы, прадпрыемствы і акцыйныя таварыствы знойдуць патрэбным унесьці ў памянёную вышэй інструкцыю Камісіі па Будаўніцтву пры СПА зьмены ці дадаткі на будучы бюджэтны год, то такія зьмены і дадаткі павінны быць паведамлены з належнымі абгрунтаваньнямі Камітэту па Будаўніцтву пры Эканамічнай Нарадзе БССР не пазьней 1-га ліпеня 1929 г.

Старшыня Камітэту па Будаўніцтву
пры Эканамічнай Нарадзе БССР *А. Гейнэ.*

Сакратар Камітэту па Будаўніцтву
пры Эканамічнай Нарадзе БССР *М. Сецко.*

10 чэрвеня 1929 г.

---

## 5. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра падачу ўсімі прадпрыемствамі, установамі і гаспадаркамі зьвестак пра выкананьне распараджэньняў інспэктароў працы.**

Для разьвіцьця арт. 46 і п. „д“ арт. 148 Кодэксу Законаў аб Працы Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

I. Усе прадпрыемствы, установы і гаспадаркі павінны не пазьней 5 дзён пасьля зыходу тэрміну, дадзенага для выкананьня распараджэньняў інспэкцыі працы, паведамляць аб выкананьні адпаведную акруговую інспэкцыю працы.

Пры выкананьні паасобных пунктаў распараджэньняў, неабходна падрабязна паказаць, па якіх прычынах распараджэньні ня выкананы.

II. Вінаватыя ў невыкананьні гэтай пастановы прыцягваюцца да адказнасьці ў адміністрацыйным парадку.

III. З выданьнем гэтай пастановы касуецца пастанова НКПрацы БССР за 21 ліпеня 1924 г. „Пра падачу ў аддзел аховы працы адміністрацыяй дзяржаўных, каперацыйных, грамадзкіх і прыватных прадпрыемстваў вестак аб выкананьні распараджэньняў інспэкцыі працы“.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

Ст. Праўны Інспэктар НКП БССР *А. Гольдзінберг.*

8 чэрвеня 1929 г.
№ 39.

---

## 6. Пастанова Народных Камісарыятаў Аховы Здароўя і Працы БССР

**пра сьветлавыя каэфіцыэнты для памяшканьняў.**

Улічваючы дэфіцытнасьць ваконнага шкла і патрэбу захаваць нормы сьветлавых каэфіцыэнтаў, адпавядаючых гігіене, Народныя Камісарыяты Аховы Здароўя і Працы БССР пастанаўляюць:

1. Для ўсіх жылых памяшканьняў захаваць прынятыя мінімальныя нормы сьветлавога каэфіцыэнту 1 : 10.

2. Існуючыя сьветлавыя каэфіцыэнты 1 : 3, 1 : 4, 1 : 5 на час дэфіцытнасьці ваконнага шкла лічыць магчымым зьніжаць, устанавіўшы для звычайных жылых памяшканьняў разьмер зьніжэньня 1 : 7, для школ і бальніц 1 : 6.

3. У прамысловых прадпрыемствах сьветлавыя каэфіцыэнты не павінны быць менш 1 : 8, апроч тых выпадкаў, калі абавязковымі пастановамі НКПрацы СССР устаноўлены іншыя каэфіцыэнты.

Народны Камісар Аховы Здароўя БССР *М. Барсукоў.*

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

10 чэрвеня 1929 г.
№ 40.

---

Узгоднена з НКАсьветы БССР.

## 7. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра ўвядзеньне ў сілу на тэрыторыі БССР пастановы НКПрацы СССР за 23 красавіка 1929 г. № 150 „Аб аплаце працы мастацка-артыстычнага пэрсаналу відовішчных прадпрыемстваў“.**

Народны Камісарыят Працы БССР, на падставе арт. 7 пастановы НКПрацы СССР за 23 красавіка 1929 г. № 50 „Аб аплаце працы мастацка-артыстычнага пэрсаналу відовішчных прадпрыемстваў“ (Изв. НКТ 1929 г. № 20 (21), пастанаўляе:

Увесьці ў сілу паказаную вышэй пастанову НКПрацы СССР на тэрыторыі БССР.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

Ст. Тарыфны Інспэктар НКПрацы БССР *Л. Эпштэйн.*

13 чэрвеня 1929 г.
№ 41.

---

## 8. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра дапаўненьне пастановы свае за 5 лютага 1929 г. № 9 „Пра выплату выхадное дапамогі і пра дачу водпускаў асобам, што паступаюць у навучальныя ўстановы“.**

У адпаведнасьці з пастановаю СНК СССР за 8 мая 1929 г. (З. З. СССР 1929 г., № 30, арт. 279) Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе дапоўніць артыкул 1-ы свае пастановы за 5 лютага 1929 г. № 9 „Пра выплату выхадной дапамогі і пра дачу водпускаў асобам, што паступаюць у навучальныя ўстановы“ (Бюл. СНК 1929 г. № 4) абзацам 2-м наступнага зьместу:

„Рабочыя і служачыя, якія пасылаюцца на рабочыя факультэты і ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, пры скасаваньні працоўнага дагавору ў зьвязку з паступленьнем у навучальную ўстанову, атрымоўваюць выхадную дапамогу ў разьмеры месячнага заработку“.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

Ст. Праўны Інспэктар НКПрацы БССР *Х. Гольдзінбэрг.*

13 чэрвеня 1929 г.
№ 42.

## 9. Абежнік Народнага Камісарыяту Працы і Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі БССР

**пра парадак разьмеркаваньня на працу будаўнічых рабочых, скончыўшых курсы „Ўстаноўка“ (па мэтадах ЦІП-а) і пра парадак арганізацыі навучальна-вытворчай практыкі іх у пэрыяд навучаньня.**

*Усім будаўнічым арганізацыям, гаспадарчым органам, самастойна праводзячым будаўнічыя работы і Інспэкцыям працы: Менскай, Віцебскай і Гомельскай акруг.*

Бяручы пад увагу павялічэньне будаўніцтва ў БССР, прадугледжанага пяцігадовым плянам, недахоп будаўнічых рабочых (атынкоўшчыкаў, маляроў, арматуршчыкаў, бятоншчыкаў, сталяроў і цесьляроў) з аднаго боку, і ўжываньне больш рацыянальных мэтадаў будаўніцтва, дзе магчыма скарыстаць рабочых, прайшоўшых каротка-тэрміновую падрыхтоўку праз курсы т-ва „Ўстаноўка“, з другога боку, НКПрацы і ВСНГ БССР прапануюць:

1. Усім будаўнічым арганізацыям БССР, з мэтаю патаненьня кошту будаўнічых работ і для падрыхтоўкі адпаведнай кваліфікацыі выпушчаемых курсантаў праз курсы т-ва „Ўстаноўка“, неабходна няўхільна выконваць абежнік СПА, НКПрацы СССР, ВСНГ СССР і НКШляхоў Зносін за 27-III—1929 г. „Пра парадак разьмеркаваньня на працу скончыўшых каротка-тэрміновую падрыхтоўку і аб парадку арганізацыі вучэбна-вытворчай працы іх“ (газ. „Труд“ за 10-IV—29 г.).

2. Пры заключэньні ўмоў будаўнічых арганізацый з т-вам „Ўстаноўка“ на вытворчую практыку курсантаў у пэрыяд іх навучаньня згодна памянёнага абежніку, будаўнічым арганізацыям належыць вызначыць такія адзінкі аб'ектаў будаўніцтва, дзе магчыма было-б прыстасаваць на практыцы ўсе набытыя курсантамі ў працэсе навучаньня новыя прыёмы работы, кіруючыся п. 5, 6, 7, 8, 9 і 10 памянёнага вышэй абежніку.

3. У бягучым годзе на органы НК Працы ў Менску, Віцебску і Гомелі ўскладаецца абавязак заключыць згоды з будаўнічымі арганізацыямі на прадастаўленьне будаўнічай практыкі ў сэзон 1929 г., выбраўшы такія аб'екты работы, якія забясьпечылі-б курсантам магчымасьць удасканаліць мэтады іх работы і набыць працоўныя навыкі, згодна п.п. 1, 2, 3 і 4 абежніку СПА за 27-III—29 г.

4. Пры вызначэньні аб'ектаў работ для практыкі курсантаў трэба выбіраць такія работы, дзе працавалі-б выключна курсанты асобнымі арцелямі, пад кіраўніцтвам інструктароў т-ва „Ўстаноўка“.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

Нам. Старшыні ВСНГ БССР *У. Стракоўскі.*

14 чэрвеня 1929 г.
№ 43.

## 10. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра скасаваньне сваіх абежнікаў, пастаноў, тлумачэньняў і інструкцый, выданых да 1 мая 1929 г., якія фармальна не скасаваны, але па сутнасьці страцілі значэньне альбо з прычыны выданьня новых законаў страцілі сілу.**

У дадатак да сваіх пастаноў за 5 мая 1928 г. № 33 (Бюл. СНК 1928 г. № 6), за 7 сьнежня 1928 г. № 77 (Бюл. СНК 1928 г. № 16) Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе скасаваць наступныя пастановы, інструкцыі, абежнікі і тлумачэньні, выданыя да 1 мая 1929 г., якія фармальна не скасаваны, але па сутнасьці страцілі значэньне альбо з прычыны выданьня новых законаў страцілі сілу:

**1923 год.**

1. „Пра дадатковыя водпускі для цяжарных жанчын, што займаюцца разумовай працай". Пастанова НКПрацы БССР за 8 мая 1923 г.
2. „Пра нагляд за катламі". Пастанова НК Працы БССР за 1 чэрвеня 1923 г.

**1924 год.**

3. „Аб правілах унутранага парадку". Пастанова НК Працы БССР за 9 сьнежня 1924 г. (З. З. БССР 1925 г. № 16, арт. 132).

**1925 год.**

4. „Пра ўжываньне пастановы ЦВК і СНК СССР за 30 студзеня 1925 г." пра забясьпечаньне інвалідаў грамадзянскай вайны з ліку рабочых і служачых, а таксама сямей рабочых і служачых, што загінулі ў грамадзянскай вайне". Інструкцыя НКП і НКСЗ БССР за 15/VI 1925 г. (Бюл. СНК 1925 г. № 1).
5. „Пра скасаваньне чарговых дзяжурстваў у савецкіх установах". Пастанова НКП БССР за 21 лютага 1925 г. (З. З. БССР 1925 г. № 18, арт. 167).
6. „Пра скасаваньне аплаты за пасрэдніцкія паслугі". Пастанова НКП БССР за 5 сакавіка 1925 г.
7. „Пра скарыстаньне 42-гадзіннага адпачынку на часовых і сэзонных работах". Тлумачэньне НКП БССР за 19 сакавіка 1925 г.
8. „Пра скарыстаньне на лесазагатоўчых работах і сплаве беспрацоўнага батрацтва" Абежнік НКП, ВСНГ і ЦП Прафсаюзу Дрэваапрацоўшчыкаў за 2 красавіка 1925 г. (З. З. БССР 1925 г. № 123, арт. 212).

**1926 год.**

9. „Аб прыцягненьні батрацтва і бядняцкага сялянства на лесазагатоўкі і дарожнае будаўніцтва". Абежнік НКП, ВСНГ, НКУС, ЦСПСБ і ўпаўнаважанага НК Шляхоў СССР пры СНК БССР за 18 студзеня 1926 г. (Бюл. СНК 1926 г. № 2).
10. „Пра парадак устанаўленьня і выплаты адначасных узнагарод за выкананьне спэцыяльных заданьняў работнікам дзяржаўных органаў". Абежнік НКП БССР за 23 студзеня 1926 г. № 5.
11. „Пра падачу ўстановамі і прадпрыемствамі ў НКП БССР статыстычных зьвестак аб рабочых і служачых, прынятых на работу". Пастанова НКП БССР за 26 студзеня 1926 г. № 6. (Бюл. СНК 1926 г. № 2).

12. „Пра парадак падачы ў НКП БССР копій пратаколаў міравых камер і пасрэдніцкіх судоў“. Абежнік НКП БССР за 22 лютага 1926 г. № 8.

13 „Пра кампэнтэнцыю і парадак дзейнасьці санітарнай інспэкцыі“. Пастанова НКП БССР за 15 лютага 1926 г. № 11. (Бюл. СНК 1926 г. № 3).

14. „Пра кампэнтэнцыю і парадак дзейнасьці інспэкцыі працы па сельскай і лясной гаспадарцы“. Пастанова НКП БССР за 15 лютага 1926 г. № 12. (Бюл. СНК 1926 г. № 3).

15. „Пра кампэнтэнцыю і парадак дзейнасьці тэхнічнай інспэкцыі працы“. Пастанова НКП БССР за 15 лютага 1926 г. № 13. (Бюл. СНК 1926 г. № 3).

16. „Пра мэханічную абарону жылішч і пра выкананьне будаўнічых. гідратэхнічных і зямельных работ на торпараспрацоўках“. Інструкцыя НКП, НК Аховы Здароўя і ВСНГ БССР за 7 чэрвеня 1926 г. № 43.

17. „Аб льготным праезьдзе сельска-гаспадарчых і будаўнічых рабочых“. Інструкцыя НКП БССР за 12 чэрвеня 1926 г.

18. „Аб падліку органамі НК Працы прынятых установамі і прадпрыемствамі рабочых і служачых у парадку дабравольнага найму“. Пастанова НКП БССР за 9 кастрычніка 1926 г. № 3. (Бюл. СНК 1926 г. № 14).

19. „Пра зьмену абежніка свайго за 12 лютага 1926 г. № 8“ „Пра парадак падачы ў НКП копій пратаколаў міравых камер і пасрэдніцкіх судоў“. Абежнік НКП БССР за 14 кастрычніка 1926 г. № 5.

20. „Палажэньне пра Музэй Аховы Працы пры Інстытуце сацыяльнай гігіены“, зацьверджанае НКП і НК Ах. Здар. 25 кастрычніка 1926 г. № 8.

21. „Пра форму і парадак рэгістрацыі РВК працоўных канфліктаў, якія ўзьнікаюць пры ўжываньні наймовай працы ў сялянскіх гаспадарках“. Інструкцыя НКП і НК Ун. Спраў БССР за 22 сьнежня 1926 г. № 21. (Бюл. СНК 1927 г. № 2).

22. „Пра парадак разбраніраваньня перарасткаў, якія лічацца ў броні на прадпрыемствах“. Пастанова НКП і ВСНГ БССР за 24 сьнежня 1926 г. № 23. (Бюл. СНК 1927 г. № 2).

23. „Пра падлік інжынэраў, тэхнікаў і спэцыялістаў па сельскай гаспадарцы“. Пастанова НКП БССР за 29 сьнежня 1926 г. № 25. (Бюл. СНК 1927 г. № 8).

24. „Пра абавязковае паведамленьне аб прафэсійных атручэньнях і хваробах“. Пастанова і інструкцыя да яе НКП і НК Ах. Здароўя за 20 сьнежня 1926 г. № 27 і 28. (Бюл. СНК 1927 г. № 8).

**1927 год.**

25. „Аб устанаўленьні рэгулярнага нагляду над дзейнасьцю РКК“. Абежнік НКП БССР за 29 студзеня 1927 г. № 35.

26. „Аб мерапрыемствах да міжнароднага жаночага дню“. Абежнік НКП БССР за 14 лютага 1927 г. № 38.

27. „Аб вылічэньні кватэрнай платы для адказных палітычных працаўнікоў, працуючых ва ўстановах, якія знаходзяцца на дзяржаўным бюджэце“. Тлумачэньне НКП БССР за 17 сакавіка 1927 г. № 45. (Бюл. СНК 1927 г. № 7).

28. „Пра ўстанаўленьне сьпісу РКК, за работай якіх устаноўлены сыстэматычны кантроль на красавік—чэрвень 1927 г.“. Абежнік НКП БССР за 19 сакавіка 1927 г. № 46.

29. „Аб абавязковай рэгістрацыі прадпрыемстваў, якія падлягаюць абкладаньню зборам за ажыцьцяўленьне нагляду па тэхніцы бясьпекі“. Пастанова НКП БССР за 1 ліпеня 1927 г. № 68.

30. „Аб парадку ўжываньня пастановы НКП БССР за 20 чэрвеня 1927 г. № 41“, „Аб разьмерах і парадку выдачы павялічаных выхадных дапамог пры звальненьні рабочых у сувязі з рацыяналізацыяй вытворчасьці“. Тлумачэньне НКП БССР за 12 жніўня 1927 г. № 75. (Бюл. СНК 1927 г. № 14).

31. „Аб уключэньні ў прамфінплян гаспадарчых органаў на 1927-28 г. затрат на неабходныя мерапрыемствы па тэхніцы бясьпекі і прамысловай санітарыі“. Абежнік НКП і ВСНГ БССР за 5 верасьня 1927 г. № 76.

32. „Аб асобных фондах зарплаты і пэрсанальных акладах“. Пастанова НКП БССР за 26 верасьня 1927 г. № 77. (Бюл. СНК 1927 г. № 15).

33. „Аб парадку збору на пакрыцьце выдаткаў па нагляду за паравымі катламі і за тэхнікай бясьпекі“—Пастанова НКП БССР за 13 кастрычніка 1927 г. № 81.

34. „Пра зарплату і прававыя нормы па мясцоваму бюджэту“. Абежнік НКП БССР за 23 лістапада 1927 г. № 88.

## 1928 год.

35. „Пра разьмеры аплаты рабочай і гужавай сілы пры прыцягненьні ў парадку працоўнай павіннасьці для змаганьня з сьнежнымі заносамі на 1927-1928 гаспадарчы год“. Пастанова НКП БССР за 4 студзеня 1928 г. № 1. (Бюл. СНК 1928 г. № 1).

36. „Пра тэрмін сэзонных будаўнічых работ“. Пастанова НКП БССР за 6 лютага 1928 г. № 6. (Бюл. СНК 1928 г. № 2).

37. „Пра абвяшчэньне ставак зарплаты па мясцоваму бюджэту“. Пастанова НКП БССР за 10 лютага 1928 г. № 10. (Бюл. СНК 1928 г. № 2).

38. „Пра дзяржаўны мінімум зарплаты на красавік—верасень 1928 г.“. Пастанова НКП БССР за 10 сакавіка 1928 г. № 13. (Бюл. СНК 1928 г. № 3).

39. „Пра парадак устанаўленьня асобных фондаў зарплаты для аплаты спэцыялістых на красавік—верасень 1928 г“. Пастанова НКП БССР за 13 сакавіка 1928 г. № 14. (Бюл. СНК 1928 г. № 3).

40. „Пра дапаўненьне пастановы свае за 6 лютага 1928 г. № 6“. „Пра тэрмін сэзонных будаўнічых работ“. Пастанова НКП БССР за 3 красавіка 1928 г. № 20. (Бюл. СНК 1928 г. № 4).

41. „Пра парадак выплаты зарплаты да сьвята 1 мая 1928 г“. Пастанова НКП БССР за 19 красавіка 1928 г. № 26.

42. „Аб складаньні пляну змаганьня з беспрацоўем на 1928-29 г“. Абежнік НКП БССР за 4 жніўня 1928 г. № 51.

43. „Пра перавод у штат бронь-падлеткаў ва ўстановах, што знаходзяцца на дзяржаўным і мясцовым бюджэтах“. Абежнік НКП БССР за 28 жніўня 1928 г. № 55. (Бюл. СНК 1928 г. № 10).

44. „Пра парадак устанаўленьня асобых фондаў зарплаты для аплаты спэцыялістых на кастрычнік 1928—сакавік 1929 г.“. Пастанова НКП БССР за 10 верасьня 1928 г. № 57. (Бюл. СНК 1928 г. № 12).

45. „Пра захаваньне сярэдняга заработку за ўдзельнікамі Ўсебеларускай Спартакіяды 1928 г.“. Пастанова НКП БССР за 14 ліпеня 1928 г. № 47 (Бюл. СНК 1928 г. № 9).

46. „Пра парадак збору на пакрыцьцё выдаткаў па нагляду за паравымі катламі“. Пастанова НКП БССР за 15 красавіка 1928 г. № 66.

47. „Пра звышмерныя работы пры складаньні балянсаў“. Абежнік НКП БССР за 27 верасьня 1928 г. № 61. (Бюл. СНК 1928 г. № 12).

48. „Пра парадак выплаты зарплаты рабочым і служачым да сьвяткаваньня XI гадавіны Кастрычнікавае Рэволюцыі“. Пастанова НКП БССР за 25 кастрычніка 1928 г. № 70.

**1929 год.**

49. „Пра работу 11 сакавіка 1929 г.“. Пастанова НКП БССР за 4 сакавіка 1929 г. № 13.

50. „Пра парадак выплаты заработнай платы рабочым і служачым да сьвята 1 мая 1929 г.“. Пастанова НКП БССР за 19 красавіка 1929 г. № 27.

Намесьнік Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава*

Ст. Праўны Інспэктар НК Працы БССР *Х. Гольдзінберг*

УЗГОДНЕНА З:

З ЦСПСБ, ВСНГ, НК Аховы Здароўя, НК Унутраных Спраў, НК Сацыяльнага Забесьпячэньня, Упаўнаважаным НК Шляхоў СССР пры СНК БССР, ЦП Прафсаюзу Дрэваапрацоўшчыкаў.

18 чэрвеня 1929 г.
№ 44.

---

## 11. Загад Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР

**Акруговым Інспэкцыям мясцовай прамысловасьці.**

Вышэйшы Савет Народнай Гаспадаркі БССР прапануе прыняць да ведама і кіраваньня абвешчаную ў „Торгово-Промышленной газете“ за 24/IX-28 г. № 248 інструкцыю ВСНГ СССР „пра парадак асобнай рэгістрацыі прыватных будаўнічых кантор па будаўніцтву буйных дамоў і прыватных прамысловых прадпрыемстваў для вырабу будаўнічых матар'ялаў, пералічаных у сьпісе пры загадзе ВСНГ СССР за 24/VII-28 г. № 890“. („Торгово-Промышленная газета“ за 29/VII-28 г. № 175), пры гэтым паказаныя ў інструкцыі названых прадпрыемстваў абавязкі па рэгістрацыі ўскладаюцца на акруговыя інспэкцыі мясцовай прамысловасьці.

Ч. в. аб. Старшыні ВСНГ БССР *Баль.*

За Сакратара ВСНГ БССР *Змачынскі.*

11 чэрвеня 1929 г.
№ 197.

---

## 12. Абежнік Народнага Камісарыяту Фінансаў і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

**пра парадак адтэрмінаваньня, растэрмінаваньня, звароту і зьняцьце судовых збораў, штрафаў і іншых спагнаньняў.**

*Усім акруговым фінансавым аддзелам і судовым органам.*

На практыцы ўзьнікаюць пытаньні аб парадку адтэрмінаваньня і растэрмінаваньня, а таксама зьняцьця па безнадейнасьці і звароту судовых пошлін, штрафаў, накладваемых у судовым парадку, і іншых спагнаньняў.

З мэтаю ўрэгуляваньня гэтых пытаньняў, а таксама рацыяналізацыі гэтай справы, Народны Камісарыят Фінансаў і Народны Камісарыят Юстыцыі БССР прапануюць кіравацца наступным.

1. Судовыя пошліны і набаўкі да іх спаганяюцца судовымі выканаўцамі і міліцыяй у парадку, устаноўленым арт. арт. 300—315 Гр. Пр. Код. Гэтымі службовымі асобамі спаганяюцца таксама штрафы, якія накладаюцца ў судовым парадку, а таксама судовыя выдаткі і канцэлярскі збор. (Пастанова СНК БССР за 5 сьнежня 1927 г. (З. З. БССР 1927 г. № 47, арт. 256).

2. У разьвіцьцё арт. арт. 34—48 Гр. Пр. Код. судом, у якія пададзен іск, даецца права па іх погляду і пры наяўнасьці ўважлівых акалічнасьцяй рабіць адтэрмінаваньне і растэрмінаваньне належачых па пададзенаму іску судовай пошліны і набаўкі да яе на тэрмін ня больш трох месяцаў ад дня падачы іску.

3. У забясьпечаньне ўнясеньня ў тэрмін растэрмінаваных і адтэрмінаваных сум аднačасова з пастановай павінен быць накладзен арышт на маемасьць ісца па яго паказаньню.

4. Пасьля зыходу тэрміну ўнясеньня судовай пошліны ці пасьля сканчэньня справы, недаўнесеная сума спаганяецца ў бясспрэчным парадку са зваротам спагнаньня як на арыштаваныя ў парадку забясьпечаньня маемасьці, так і на ўсякую іншую маемасьць ісца, пры гэтым да выплаты ўсёй нядоімкі выканаўчы ліст ня можа выдавацца.

5. Падлягаючыя сумы павінны быць спагнаны з ісца, хаця-б у яго карысьць па рашэньню суда было прысуджана зьвярнуць гэтыя выдаткі з адказчыка.

6. Скаргі на пастановы і рашэньні судоў, якімі рашэньнямі залічаны судовыя пошліны (арт. арт. 37 і 38 Гр. Пр. Код.), пры адсутнасьці пастановы аб адтэрмінаваньні і растэрмінаваньні ўзносу гэтых пошлін, атрымліваюць рух толькі пры ўмове ўзносу скаргнікамі усіх гэтых пошлін.

7. Пастановы судоў аб абкладаньні судовай пошлінай могуць быць абскарджаны асобна ад скаргі на рашэньне па справе ў сямідзённы тэрмін ад дня абвяшчэньня рашэньня. Скаргі падаюцца праз той суд, які прыняў пастанову пра абкладаньне судовай пошлінай, але гэта не прыпыняе спагнаньня.

8. Поўнае ці частковае зьняцьце нявыплачаных у тэрмін судовых пошлін і набавак да іх, а таксама адтэрмінаваньне ці растэрмінаваньне іх па хадайніцтвах платнікаў робіцца прыняўшым даную пастанову судом у тых выпадках, калі разьмер судовых пошлін ці набавак да іх у паасобку не перавышае 10 руб.

9. Калі спагнаньне перавышае 10 руб. і ў працэсе спагнаньня высьветліцца неплатаздольнасьць асобы, з якой належыць спагнаць, то ўся перапіска пасылаецца ў мясцовы акруговы фінансавы аддзел на ўзгадненьне і пры нязгодзе апошняга, ён робіць распараджэньне аб спагнаньні пошлін на падставе Палажэньня аб спагнаньні падаткаў, пры гэтым фінансавыя аддзелы пасылаюць платнікам паведамленьне аб выплаце судовых пошлін і набавак да іх у двухтыднёвы тэрмін з папярэджаньнем, што ад дня зыходу ўстаноўленага тэрміну на пошліны і набаўкі будзе налічана пеня і фінансавыя органы прыступяць да прымусовага спагнаньня.

Пры спагнаньні судовых пошлін і набавак да іх у парадку, паказаным у пункце 1-м гэтага абежніка, пеня не спаганяецца.

10. Калі паданая іскавая, заява аплачаная грашмі ці судовымі маркамі, не атрымлівае ў судзе руху і будзе лічыцца не паданай, (арт. 81 Гр. Код.), то пры падачы новай іскавой заявы раней унесеная пошліна залічаецца.

11. Поўнае ці частковае зьняцьце штрафаў, канцэлярскага збору і выдаткаў па справядзеньню, а таксама адтэрмінаваньне ці растэрміна ваньне іх, па хадайніцтвах асоб, у якіх здарылася няшчасьце, зьвязанае з поўнай ці частковай стратай платаздольнасьці, робіцца судамі, якія прынялі пастановы на суму ня больш 10 руб. у кожным асобным выпадку.

Пры нязначнай суме спагнаньня больш аднаго рубля, калі будзе высьветляна, што для спагнаньня судовай пошліны будуць патрэбны значна большыя выдаткі, як спаганяемая сума, суды павінны скласьці пастанову аб зьняцьці пошліны. Калі пошліны спаганяюцца на карысьць прыватных асоб, парадак спагнаньня ўжываецца ў адпаведнасьці з інструкцыяй для судовых выканаўцаў.

Такі-ж парадак устанаўляецца і пры спагнаньні штрафаў, канцэлярскага збору і судовых выдаткаў сумай ня звыш 1 руб.

Пры суме спагнаньня больш 10 руб., перапіска аб спагнаньні дасылаецца адпаведнаму фінансаваму аддзелу, які пры дачы льгот платнікам, кіруецца адпаведнымі артыкуламі Палажэньня аб спагнаньні падатку.

Пытаньне аб адтэрмінаваньні і растэрмінаваньні выплаты штрафаў, накладваемых прыгаварамі судоў па крымінальных справах, вырашаецца на падставе арт. арт. 460 і 461 Крым. Пр. Код.

12. Калі фінансавы аддзел ня згодзіцца даць льготы, паказаныя ў п. 11 абежніка, то спагнаньне робіцца ім на падставе Палажэньня аб спагнаньні падаткаў.

13. У выпадку ўнясеньня сум пошлін, штрафу ці судовых выдаткаў у большым як гэта патрэбна разьмеры, а таксама калі сумы гэтыя падлягаюць звароту па іншых прычынах, суд пастанаўляе аб звароце сум і копію свае пастановы дасылае ў фінаддзел для распараджэньня аб выдачы грошай з бліжэйшай касы Дзяржбанку.

14. Зварот сум, няправільна ўнесеных у касу Дзяржбанку, робіцца акрфінаддзеламі ў парадку, устаноўленым правіламі НКФ СССР № 4 за 12/X-25 г. „аб звароце сум, няправільна і ў лішнім разьмеры паступіўшых у выплату падаткаў і збораў“.

15. З выданьнем гэтага абежніка касаюцца:

а) пастанова НКЮ і НКФ „аб адтэрмінаваньні і растэрмінаваньні судовай пошліны“ (Зб. Зак. БССР 1924 г. № 16, арт. 165);

б) пастанова НКЮ і НКФ „аб парадку звароту няправільна паступіўшых у казну штрафаў па судовых справах“ (З. З. БССР 1924 г. № 2, арт. 23);

в) абежнік НКЮ і НКФ за 2 лютага 1928 г. № 24 „аб парадку зьняцьця з рахунку па безнадзейнасьці да паступленьня штрафаў і іншых сум, якія прылічваюцца дзяржаве з прычыны невядомай адсутнасьці або поўнай яго незаможнасьці“ (Часопіс НКЮ БССР „Рэвалюцыйная Законнасьць“. № 3—4 (13—14) 1928 г.).

За Народнага Камісара Фінансаў БССР *Танхілеўскі.*

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *Валасевіч.*

10 чэрвеня 1929 г.
№ 32305—2.

## 13. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

**пра парадак выдачы дазволаў на заказ пячатак з дзяржаўным гэрбам, пра выкананьне заказаў, пра зьнішчэньне пячатак з дзяржаўным гэрбам і пра справаздачнасьць гравэрных майстэрняў.**

*Выдана ў выкананьне пастановы ЦВК і СНК БССР за 21/VIII-25 г. (Зб. Зак. БССР 1925 г. № 34, арт. 319).*

1. Заказ пячаткі з дзяржаўным гэрбам ў выпадку адчыненьня ўстановы, зьмены назвы ўстановы, страты альбо папсаваньня пячаткі, якая мелася ў установе, робіцца ў гравэрных майстэрнях толькі пасьля атрыманьня адпаведнага дазволу ад Адміністрацыйнага аддзелу АВК па месцы знаходжаньня ўстановы.

2. У тым выпадку, калі пячатка будзе вырабляцца ў другой акрузе, установа, якой патрэбна пячатка, атрымлівае дазвол ад адміністр. аддзелу АВК па месцы свайго знаходжаньня і рэгіструе гэты дазвол у Адміністр. аддзеле АВК па месцы знаходжаньня гравэрнай майстэрні.

3. Дзеля атрыманьня дазволу ўстанова падае ў Адміністрацыйны аддзел АВК 2 экзэм. ўзору пячаткі, належным чынам завераныя.

4. Адміністрацыйны аддзел АВК пры выдачы дазволу на заказ пячаткі з дзяржаўным гэрбам павінен упэўніцца, ці мае права даная ўстанова на такую пячатку, згодна пераліку ўстаноў, памянёных ў арт. 1 пастановы ЦВК і СНК за 21/VIII-25 г.

Дазволы на выраб пячаткі з дзяржаўным гэрбам Саюзу ССР павінны выдавацца з захаваньнем умоў, паказаных у арт. 4 пастановы ЦВК і СНК СССР за 17/VII 1925 г. (Зб. Зак. СССР 1925 г. № 48, арт. 344).

Дазволы на выраб пячаткі з дзяржаўным гэрбам вайсковым часткам на падставе загаду РВС СССР за 2/VI-26 г. № 295, даюцца толькі ў тым выпадку, калі да патрабаваньня на выраб пячатак будзе прыкладзена пасьведчаньне, выдадзенае Штабам вайсковай акругі, аб праве данай вайсковай частцы на карыстаньне гэрбавай пячаткай.

5. З пададзеных 2-х узораў пячаткі адзін з іх застаецца ў справе таго адміністр. аддзелу, які выдае дазвол, а другі экзэмпляр з накладзеным на адвароце яго штампам-дазволам на выраб пячаткі выдаецца ўстанове, якая хадайнічае аб выдачы дазволу.

6. Падлік выданых дазволаў на выраб гэрбавых пячатак праводзіцца па вопісу папер у справе, спэцыяльна прызначанай па гэтаму справаводзтву, дзеля чаго ў опіс запісваецца ня кожная паперка асобна, а ўся перапіска па выдачы дазволу разам; чарговы нумар па вопісу і зьяўляецца нумарам дазволу.

7. Калі ня будзе патрэбы ў карыстаньні пячаткаю з дзяржаўным гэрбам з прычыны яе папсаваньня, зьмены, ці замены новаю, або з прычыны ліквідацыі ўстановы, то такая пячатка накіроўваецца ўстановаю ў Адміністрацыйны Аддзел Акруговага Выканаўчага Камітэту для зьнішчэньня. Аб зьнішчэньні пячаткі Адміністрацыйным Аддзелам складаецца акт, які далучаецца да спэцыяльнай справы. Калі пячатка накіроўваецца для зьнішчэньня ня ў той Адміністрацыйны Аддзел Акруговага Выканаўчага Камітэту, якім быў выдадзены дазвол на

выраб яе, то Адміністрацыйны Аддзел АВК, які прыняў і зьнішчыў пячатку, павінен неадкладна паведаміць аб гэтым тую ўстанову, якая выдала дазвол.

Усе ўстаноны на высылаемыя імі для зьнішчэньня пячаткі з дзяржаўным гэрбам павінны рабіць адбіткі ці зьлепкі ў 6-ці экз., з якіх 4 экз. разам з копіяй акту аб зьнішчэньні пячатак хаваюцца ў адпаведным акруговым аддзеле Цэнтрархіву БССР.

Адбіткі ці зьлепкі з пячатак павінны быць выстаўлены на аднэй старонцы аркушу з належнымі подпісамі. Над кожным адбіткам ці зьлепкам павінны быць зроблены надпісы з паказаньнем часу, на працягу якога тая ці іншая пячатка была прысвоена ўстанове.

8. Калі пячатка з дзяржаўным гэрбам згубіцца, то ўстанова, у карыстаньні якой знаходзілася пячатка, павінна безадкладна паведаміць Адміністрацыйнаму аддзелу па месцы выдачы дазволу, а таксама зрабіць у газэце публікацыю аб несапраўднасьці згубленай пячаткі; пры заказе новай пячаткі ўзор яе павінен чым-небудзь адрозьнівацца ад узору згубленай, напрыклад, велічынёю літараў, разьмерам пячаткі і г. д.

9. Гравэрныя майстэрні выконваюць заказы на выраб пячатак з дзяржаўным гэрбам толькі калі ў заказчыка ёсьць адпаведны дазвол ад Адміністрацыйнага аддзелу АВК па месцы свайго знаходжаньня. Усе прынятыя і выкананыя заказы на пячаткі з дзяржаўным гэрбам запісваюцца гравэрнымі майстэрнямі ў асобную прашнураваную і засьведчаную Адміністрацыйным Аддзелам АВК кнігу з далучэньнем апраўдальных дакумантаў і расьпісак аб атрыманьні выробленых пячатак. Апроч таго, на кожную зробленую пячатку павінен быць адбітак.

10. Адбіткі зробленых майстэрнямі пячатак 5-га чысла кожнага месяца гравэрныя майстэрні павінны пасылаць у Адміністрацыйны Аддзел АВК па месцы свайго знаходжаньня для праверкі і параўнаньня з выданымі дазволамі.

11. Нагляд за выкананьнем гравэрнымі майстэрнямі правіл, прадугледжаных арт. арт. 12 і 13 гэтай інструкцыі, праводзіцца Адміністрацыйнымі аддзеламі.

12. За прыйманьне і выкананьне майстэрнямі заказаў на выраб пячатак з дзяржаўным гэрбам без адпаведнага дазволу ўласьнікі майстэрняў прыцягваюцца да адказнасьці ў крымінальным парадку паводле арт. 254 К. К., а за непадачу адбіткаў зробленых майстэрнямі пячатак падглядаюць адказнасьці ў адміністрацыйным парадку паводле п. 6 арт. 6 пастановы ЦВК і СНК БССР за 23|II-29 г.

13. З выданьнем гэтай інструкцыі касуецца інструкцыя НКУС БССР за 29|IX-25 г. (Бюл. СНК БССР 1925 г. № 5, стар. 29) і абежнік НКУС БССР за 13|XI-25 г. (Бюл. СНК БССР 1925 г. № 7, стар. 40).

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных
Спраў БССР *Я. Кроль.*

Нач. Адміністрацыйнай Службы
Адмуправы НКУС БССР *К. Уласаў.*

24 красавіка 1929 г.
№ 50.

## 14. Пастанова Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

**пра зьмену: арт. 39 Палажэньня „аб відах на пражываньне для чужаземцаў“, арт. 28 інструкцыі НКУС „аб парадку выдачы грамадзянам СССР агульна-грамядзянскіх замежных пашпартоў і віз для чужаземцаў“ і п. „б“ арт. 6 інструкцыі НКУС „аб парадку прызнаньня чужаземцаў стала пражываючымі (даміцыліраванымі) і часова пражываючымі ў БССР.**

У зьвязку з выданьнем палажэньня аб парадку накладаньня адміністрацыйных пакараньняў і Крымінальнага Кодэксу БССР, Народны Камісарыят Унутраных Спраў ПАСТАНАЎЛЯЕ:

Зрабіць наступныя зьмены арт. 39 палажэньня аб відах на пражываньне для чужаземцаў (Бюл. СНК БССР 1926 год, № 3, арт. 28 інструкцыі НКУС „аб парадку выдачы грамадзянам БССР агульна-грамадзянскіх замежных пашпартоў і віз для чужаземцаў“ за 29|V-1928 год (Бюл. СНК БССР 1928 год, № 11), і п. „б“, арт. 6 інструкцыі НКУС „аб парадку прызнаньня чужаземцаў стала пражываючымі (даміцыліраванымі) і часова пражываючымі“ за 11|V-1928 г. (Бюл. СНК БССР 1928 г., № 11):

1) Арт. 39 Палажэньня аб відах на пражываньне чужаземцаў запісаць у наступнай рэдакцыі:

„Чужаземныя грамадзяне, якія прыбываюць у БССР бяз віз Паўнамоцных Прадстаўніцтваў або Консульстваў БССР за граніцай, або міма кантрольна-прапускных пунктаў, прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. 120 Крымінальнага Кодэксу БССР, выданьня 1928 г., а незаконна атрымаўшыя віды на пражываньне (шляхам падробкі і інш.)— паводле арт. 254 таго-ж Кодэксу.

Чужаземцы, якія парушаюць правілы сьледваньня па транзітных візах і атрыманьня відаў на пражываньне, а таксама пражываючыя ў БССР звыш дазволенага тэрміну, прыцягваюцца да адказнасьці ў адміністрацыйным парадку паводле п. „в“ арт. 13 пастановы ЦВК і СНК БССР за 17|V-1928 г. (З. З. БССР 1928 г., № 17, арт. 160) і паводле дадатковай пастановы ЦВК і СНК за 28|II-1929 г.

Незалежна ад паказаных вышэй пакараньняў вінаватыя чужаземцы могуць быць высланы за межы СССР у парадку разьдзелу VI пастановы СНК БССР за 4|VIII-22 г. (З. З. БССР 1922 г., № 12, арт. 148)“.

2) Арт. 28 інструкцыі НКУС за 29|V-28 г., № 84 (Бюл. СНК 1928 г, №11) запісаць у наступнай рэдакцыі:

„Асобы, якія выехалі або прыехалі на абшары СССР без устаноўленага дазволу, прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. 120 Крымінальнага Кодэксу БССР, выданьня 1928 г.; асобы, якія падробяць агульна-грамадзянскія замежныя пашпарты, або зробяць у гэтых пашпартох які-небудзь папраўкі або зьмены, прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. 254 гэтага Кодэксу.

Асобы, якія дадуць аб сабе няправільныя зьвесткі ў заявах, а таксама ня выконваюць правілаў арт. 18 і 21 гэтай інструкцыі, прыцягваюцца да адказнасьці ў адміністрацыйным парадку, паводле п. „в“ арт. 13 пастановы ЦВК і СНК БССР за 17|V-28 г. (З. З. БССР 1928 г. № 17, арт. 160) і дадатковай пастановы ЦВК і СНК БССР за 23|II-29 г.“.

3) Абзац першы п. „б“ арт. 6 інструкцыі НКУС за 11|V-28 г. № 77 (Бюл. СНК 1928 г. № 11) запісаць у наступнай рэдакцыі:

„Грамадзяне, якія знаходзяцца пад судом, ці пад дазнаньнем, альбо асуджаны паводле наступных арт. арт. Крымінальнага Кодэксу БССР, выданьня 1928 г.: 63-76, 79 п. Б, 84, 85, 88, 90, 92 п. б, 95, 103, 106 п. б і в, 107, 110 п. а, 116, 121, 132, 139, 143, 155, 156, 157, 159, 160, 196—199, 204—212, 214—218, 226—228, 233—236, 239 п. б,240—248, 250, 252, 255, 257, 259, 260, 261, 263 і 264“.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных
Спраў БССР *Я. Кроль.*

Загадчык Чужаземнай часткі НК
Унутраных Спраў БССР *І. Губскі.*

8 чэрвеня 1929 г.
№ 56.

---

Узгоднена з ВСНГ і НКЮ БССР.

## 15. Пастанова Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

**пра парадак адчыненьня гравэрных майстэряў, набыцьцё і здачу майстэрнямі шрыфтаў і справаздачнасьць.**

Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР пастанаўляе:

1. Гравэрныя майстэрні могуць адчыняцца дзяржаўнымі, каперацыйнымі, грамадзкімі ўстановамі, арганізацыямі і прадпрыемствамі, а таксама прыватнымі асобамі толькі пасьля атрыманьня на гэта адпаведнага дазволу.

2. Дазволы на адчыненьне гравэрных майстэрняў выдаюцца па месцы адчыненьня гэтых прадпрыемстваў адпаведнымі акруговымі адміністрацыйнымі аддзеламі.

3. Фінансавыя органы выдаюць рэгістрацыйныя дакуманты на адчыненьне гравэрных майстэрняў толькі пры наяўнасьці дазволу на адчыненьне майстэрні, выдадзенага адміністрацыйным аддзелам.

4. Заявы, якія падаюцца ў адміністрацыйныя аддзелы на адчыненьне гравэрных майстэрняў, павінны быць аплачаны гэрбавым зборам у разьмеры 2 руб. (1 руб. заява і 1 руб. адказ) і зьмяшчаць у сабе дакладныя паказаньні, хто просіць дазвол, кім і дзе мае быць адчынена майстэрня.

Не аплачваюць заяў гэрбавым зборам установы, арганізацыі і прадпрыемствы, паказаныя ў „пераліку выняткаў з дзяржаўнага гэрбавага збору“ (З. З. СССР 1927 г. № 55 арт. 533).

5. Пры падачы заявы аб выдачы дазволу на адчыненьне гравэрнай майстэрні заяўнікам запаўняюцца анкеты ў 2-х экзэмп. на ўласьнікаў, альбо адказных асоб майстэрні, паводле далучаемай да гэтага формы № 1. Аб зьменах адказных асоб паведамляецца Адм. аддзелу з падачаю анкет па ф. № 1 у 2-х паасобніках.

6. Атрымаўшы заяву аб выдачы дазволу на адчыненьне гравэрнай майстэрні, Адміністрацыйны аддзел павінен на працягу месяца разглядзець яе, праверыць анкеты і, ці выдаць дазвол на права адчыненьня прадпрыемства, ці адмовіць у выдачы яго.

Дазволы на адчыненьне гравэрных майстэрняў выдаюцца Адміністрацыйным аддзелам, калі ёсьць станоўчае заключэньне акруговых інспэкцый мясцовай прамысловасьці.

7. Калі на працягу 2-х месяцаў ад дня выдачы дазволу, прадпрыемства ня будзе адчынена, то дазвол траціць моц і можа быць адноўлен на агульных падставах.

8. Гравэрныя майстэрні могуць передавацца толькі тады, калі аб'яднаньне, ці асоба, якой прадпрыемства перадаецца, атрымае прадугледжаны гэтай інструкцыяй дазвол.

9. Набываць неабходны для работы шрыфт усе гравэрныя майстэрні могуць толькі па адпаведнаму, у кожным паасобным выпадку, дазволу Адміністрацыйнага аддзелу АВК.

10. Пасьля набыцьця гравэрнымі майстэрнямі шрыфтаў па выдадзенаму дазволу, яны павінны падаць у Адміністрацыйны Аддзел АВК адбіткі шрыфтаў у 2-х экз., з паказаньнем дакладнай колькасьці набытага шрыфту кожнага ўзору асобна.

11. Нягодны для далейшага карыстаньня шрыфт усе гравэрныя майстэрні павінны здаваць у *дзяржаўныя словалітні* з атрыманьнем кошту здадзенага шрыфту па ўстаноўленай расцэнцы альбо ў дзяржаўныя друкарні, з падачаю ў адм. аддзел зьвестак аб колькасьці здадзенага шрыфту і адбіткаў яго.

12. Передаваць і прадаваць шрыфт з аднэй гравэрнай майстэрні ў другую можна толькі пасьля адпаведнага дазволу Адмаддзелу АВК.

13. Гравэрныя майстэрні павінны весьці дакладны падлік маючыхся ў іх шрыфтаў у кнігах альбо асобнымі рахункамі, але каб заўсёды была магчымасьць праверыць наяўнасьць шрыфту.

14. Пячаткі з дзяржаўным гербам СССР і БССР гравэрныя майстэрні вырабляюць з належнага дазволу (п. 2 пастановы ЦВК і СНК БССР за 21/VIII—1926 г. (Зб. Зак. БССР 1925 г. № 34, арт. 319) і вядуць справаздачнасьць аб гэтых заказах у парадку арт. 12 і 13 інструкцыі НКУС за 24/IV—1929 г. № 50 „аб пячатках з дзяржаўным гэрбам“.

15. На выраб пячатак бяз гэрбу, а таксама штампаў, асобнага дазволу не патрэбна. Але аб ўсіх гэтых заказах гравэрныя майстэрні вядуць падлік, запісваючы выкананыя заказы ў асобную прашнураваную і пасьведчаную Адмаддзелам АВК кнігу, да якой хаваюцца ўсе апраўдальныя дакуманты па заказу і выдачы заказчыкам выкананых вырабаў, пакідаючы па 1 экз. адбіткаў выробленых пячатак бяз гэрбу і штампаў.

16. Штомесячна 5 чысла гравэрныя майстэрні павінны падаваць у Адміністрацыйны Аддзел АВК паказаныя ў арт. 7 адбіткі выробленых імі за мінулы месяц пячатак без гэрбу і штампаў.

17. Нагляд за выкананьнем гэтай пастановы ўскладаецца на акруговыя адміністрацыйныя аддзелы і іх мясцовыя органы.

18. Вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы падлягаюць адказнасьці ў адміністрацыйным парадку, паводле п. 14 арт. 6 Пастановы ЦВК і СНК БССР за 23/II—1929 г. (Сав. Беларусь № 71, за 1929 г.) „аб зьмене пастановы ЦВК і СНК БССР за 17/V—1928 г. пра парадак выданьня акруговымі і раённымі выканаўчымі камітэтамі і гар. саветамі абавязковых пастаноў і пра накладаньне адміністрацыйных пакараньняў“.

Нам. Народнага Камісара
Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

Нач. Адміністр. Службы
НКУС БССР *К. Уласаў.*

15 чэрвеня 1929 г.
№ 58.

*Дадатак да пастановы*
Форма № 1.

## Анкета для адказных асоб.

1. Прозьвішча, імя і імя па бацьку . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
2. Час і месца нараджэньня . . . . . . . . . . . . . . . . . .
3. Паходжаньне . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
4. Хатні адрас . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
5. Маемаснае становішча . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
6. Адукацыя . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
7. Асноўная прафэсія і род заняткаў . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Адносіны да майстэрні (уласьнік, кампаньён, адказны кіраўнік) . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

9. Ці зьяўляецца пайшчыкам, кампаньёнам, акцыянэрам і да г. п. якога-небудзь прамысловага ці гандлёвага прадпрыемства і якога
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

10. Да якой палітычнай партыі належыць, час паступленьня, № членскага білету . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

11. Ці былі раней у якіх-небудзь палітычных партыях, у якіх, дзе і калі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

12. Ці прыцягваліся да суду і сьледзтва, ці прыцягваліся да адказнасьці ў судовым ці адміністрацыйным парадку, дзе, калі і за што .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

13. Ці займалі пасьля рэвалюцыі якія выбарчыя пасады, якія, дзе і калі
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Подпіс . . . . . . . . . .

---

## 16. Пастанова Галоўнага Кіраўніцтва шосавых і грунтавых дарог і аўтамабільнага транспарту БССР і Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

### пра правілы падліку, рэгістрацыі і эксплёатацыі аўто-мото-вэлё-машын.

З мэтаю правядзеньня на тэрыторыі БССР падліку аўто-мото-вэлё-машын, а таксама ўпарадкаваньня эксплёатацыі аўтамабіляў і матацыкляў, Галоўнае Кіраўніцтва шосавых і грунтавых дарог і аўтамабільнага транспарту БССР і Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР пастанаўляюць:

1. Зацьвердзіць далучаемыя да гэтай пастановы: 1) правілы падліку аўто-мото-вэлё-машын; 2) правілы дапушчэньня аўтамабіляў і мата-

цыклетаў да эксплёатацыі; 3) правілы аўтамабільнага і матацыклетнага руху і 4) правілы дапушчэньня асоб да кіраваньня аўтамабілямі і матацыклетамі.

2. Вінаватыя ў парушэньні гэтых правіл падлягаюць адказнасьці ў адміністрацыйным парадку штрафам да 100 рублёў ці прымусовым працам да 1 месяцу.

3. Нагляд за выкананьнем гэтай пастановы ўскладаецца на органы Галоўнага Кіраўніцтва шосавых і грунтавых дарог і аўтатранспарту і на органы міліцыі.

4. Гэтая пастанова набывае сілу праз 2 тыдні з дня яе агалашэньня і пашыраецца на ўсю тэрыторыю БССР.

Начальнік Галоўнага Кіраўніцтва Шосавых
і Грунтавых Дарог і Аўтамабільнага
Транспарту БССР *Яцкевіч.*

Нам. Народнага Камісара
Унутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

1 чэрвеня 1929 г.
№ 1.

---

### I. Правілы падліку і рэгістрацыі аўто-мото-вэлё-машын.

1. Усе аўтамабілі і матацыклы (незалежна ад іх сыстэмы, тыпу, тэхнічнага стану), належачыя дзяржаўным, каперацыйным, грамадзкім установам і арганізацыям, а таксама прыватным асобам, павінны быць забясьпечаны пасьведчаньнямі (пашпартамі) Цэнтральнага Кіраўніцтва шосавых і грунтавых дарог і аўтамабільнага транспарту НКШляхоў (Цудартранс'у), выдаваемымі Галоўнымі Кіраўніцтвамі шосавых і грунтавых дарог і аўтамабільнага транспарту Рэспублік і Абласнымі дарожна-аўтамабільнымі аддзеламі, а належачыя вайсковаму ведамству— фармулярамі, выдаваемымі Вайскова-Тэхнічным Кіраўніцтвам РСЧА, ці Кіраўніцтвамі Начальніка Забесьпячэньняў Вайсковых Акруг.

Паказаныя пасьведчаньні Галоўных Кіраўніцтваў шосавых і грунтавых дарог Рэспублік і Абласных дарожна-аўтамабільных Аддзелаў і фармуляры Вайсковага Ведамства зьяўляюцца адзінымі дакумантамі, якія даюць права эксплёатацыі аўтамабіляў і матацыклаў.

Дзеля атрыманьня пасьведчаньняў (пашпартаў), трэба запаўняць рэгістрацыйныя лісты з паказаньнем дакладнае і падрабязнае характарыстыкі аўта-мото-машын і высылаць такія ў Галоўнае Кіраўніцтва шосавых і грунтавых дарог і аўтатранспарту БССР.

На аўтамабілі і матацыклы, якія вышлі з эксплёатацыі (кладбішчанскія), таксама падаюцца паказаныя вышэй зьвесткі, але на гэтыя машыны пашпарты не выдаюцца.

Для пажарных машын трэба паказваць падрабязна абсталяваньне (цыстэрна, калаўротная помпа, усходы), а дзеля санітарных—колькасьць насілак.

2. Аб усіх аўтамабілях і матацыклах, якія паступаюць на склады гандлёвых прадпрыемстваў, арганізацый і асоб, а таксама на аўтарамонтныя прадпрыемствы, уласьнікі машын павінны паведамляць Галоўнае Кіраўніцтва Шосавых і Грунтавых Дарог і Аўтатранспарту БССР.

У гэтым выпадку даюцца толькі зьвесткі з паказаньнем маркі і тыпу машын, № рухавікоў з разьмеркаваньнем іх на новыя, старыя, адрамантаваныя, якія рамантуюцца, кладбішчанскія (якіх нельга адрамантаваць).

3. Аб разборцы машын на запасныя часткі неабходна зараз-жа паведамляць Галоўнае кіраўніцтва Шосавых і Грунтавых Дарог і Аўтатранспарту БССР з падачаю акту аб разборцы і пасьведчаньняў на разабраныя машыны для зьняцьця іх з вучоту.

4. Аб усіх аўтамабілях і матацыклах, якія прыбываюць *з-за межаў* БССР для сталае эксплёатацыі, аб кожнай перадачы аўтамабіляў і матацыклаў іншым уласьнікам, пры перамене ў межах БССР месца знаходжаньня машын, пры зьмене тыпу іх, а таксама пры пастаноўцы машын у капітальны рамонт уласьнікам гэтых машын трэба безадкладна паведамляць Белдартранс і высылаць для адпаведных адзнакаў пасьведчаньні гэтых машын.

5. Штогод усе ўласьнікі машын павінны падаваць у Белдартранс:
1) справаздачу аб эксплёатацыі аўта-мато-транспарту (не рэгулярных ліній) 1 раз у год да 1-га лістапада за час з 1-га кастрычніка мінулага году да 1-га кастрычніка бягучага году;

2) зьвесткі аб эксплёатацыі міжгародных, прыгарадных і гарадзкіх ліній аўтабусных зносін па кожнай лініі асобна, 1 раз у год да 1 лістапада, за час з 1 кастрычніка мінулага году да 1 кастрычніка б. г.;

3) зьвесткі аб працы аўтамабіляў і матацыклаў, якія ў першы раз паступілі ў эксплёатацыю і аб недахопах у іх канструкцыі, замечаных пры карыстаньні імі, 1 раз у год да 1 лістапада (штогод);

4) зьвесткі аб аўтарамонтных прадпрыемствах, маючых ня менш 5 варштатаў, іх абсталяваньні і вытворчасьці, 1 раз у год да 1-га лістапада, за час з 1-га кастрычніка мінулага году да 1-га кастрычніка б. г.

Зьвесткі падаюцца па формах, паказаных Белдартранс'ам.

Інвэнтарная ведамасьць на маючыяся аўто-мото-машыны падаецца 1 раз у 3 гады, згодна асобных патрабаваньняў Белдартрансу.

У сваіх справаздачах гаспадаркі павінны даваць поўныя і вычэрпваючыя зьвесткі і падаваць іх дакладна ва ўстаноўленыя тэрміны.

Што да падліку вэлёсыпэдаў, то зьвесткі аб іх падаюцца акруговымі фінаддзеламі 1 раз у год не пазьней 5-га кастрычніка па даных падатковага абкладаньня і выданых нумаровых знаках; зьвесткі павінны ахапляць усю акругу і адбіваць поўную наяўнасьць вэлёсыпэдаў у акрузе, іх месцазнаходжаньне, становішча і якой маркі.

## II. Правілы дапушчэньня аўтамабіляў і матацыклаў да эксплёатацыі.

6. Да руху дапушчаюцца наступныя аўтамабілі і матацыклы:

а) маючыя аўтапашпарты (пасьведчаньні), выданыя Цудартрансам, Белдартрансам, Абласнымі Дарожна-Аўтамабільнымі Аддзеламі і фармуляры Вайскогага Ведамства;

б) агледжаныя і спрабаваныя спэцыяльнымі камісіямі пры акруговых дарожных аддзелах і маючыя пасьведчаньні камісій аб годнасьці гэтых машын да язды;

в) маючыя нумаровыя знакі;

г) для шофэраў патрэбна абавязкова мець пасьведчаньне на права кіраваньня машынаю;

д) для машын дзяржаўных устаноў патрэбна мець дазвол да язды (дарожныя лісты).

7. Аўтамабілі і матацыклы павінны задавальняць наступным патрабаваньням:

а) рулявое кіраваньне павінна быць у поўнай спраўнасьці, каб забясьпечыць хуткі і раптоўны паварот; люфт аўтамабільнага рулю не павінен быць больш $^{1}/_{10}$ поўнага звароту руля;

б) аўтамабіль павінен мець *2 незалежных* тармазы: ручны і нажны, а матацыклы павінны мець моцны ручны тормаз; тармазы павінны быць спраўнымі, каб можна было хутка спыняцца;

в) аўтамабіль павінен мець ня менш 2-х пярэдніх ліхтароў і аднаго задняга ліхтара; задні ліхтар павінен ясна асьвятляць нумаровы знак і мець папераджальны чырвоны колер; уключэньне задняга ліхтара павінна быць зроблена так, каб шофэр ня мог яго выключыць са свайго месца;

г) матацыкл без каляскі павінен мець 1 пярэдні ліхтар, а з каляскай—2 ліхтары: 1—уперадзе, другі чырвоны—ззаду;

д) аўтамабілі і матацыклы павінны быць забясьпечаны адным гукавым сыгналам;

е) на кожным аўтамабілі павінны быць 2 нумаровых знакі: адзін—уперадзе, на левым крыле і другі—ззаду; на матацыкле—адзін уперадзе—на пярэдняй вілцы над шчытом, нумарам у бок руху, другі ззаду, на канцы задняга шчытку, цыфрамі адваротна руху;

ж) нумаровыя знакі ўстанаўляюцца аднаго ўзору; матарыял—дахавае жалеза, форма—прастакутнік, афарбоўка для дзяржаўных машын—чырвоная, для прыватных—жоўтая. Разьмеры знакаў для аўтамабіляў: пярэдні—300 мм.×130 мм., а задні—340 мм.×170 мм., для матацыклаў—220 мм.×130 мм.

Цыфры павінны быць чорнага колеру, разьмеры па вышыні на 30 мм. менш вышыні дошкі, шырыня штрыху—15 мм.;

з) нумаровыя знакі на права язды выдаюцца фінансавымі органамі, пры гэтым нумаровыя знакі выдаюцца толькі на тыя аўтамабілі і матацыклы, якія прайшлі тэхнічны агляд і на якія будуць прад'яўлены іх уласьнікам пасьведчаньні дартрансаў, абласных дар.-аўт. аддзелаў і фармуляры ваенведу;

і) легкавыя аўтамабілі, якія маюць 4 тармазы (г. зн. на кожным коле), павінны мець знак роўнабочнага трыкутніку, намаляванага ззаду на абодвых крылах, а грузавыя—справа, на задняй сьценцы корабу ці прымацаваны асобна ззаду (разьмер знаку: даўжыня боку трыкутніку знадворку—145 м/м., шырыня зафарбаванага боку трыкутніку—20 м/м.);

к) аўтамабілі і матацыклы павінны трымацца чыста, быць афарбаваны, абіты матарыялам, які ня псуе вопратку пасажыраў; сядзеньні павінны быць спраўнымі;

л) грузавыя аўтамабілі і цегачы, забясьпечаныя прыцэпкамі ў відзе пляцформ ці цыстэрн, павінны мець №, задні ліхтар на апошнім прыцэпе.

8. Не дапушчаюцца да язды аўта-машыны:

а) з няспраўным счэпліваньнем, з няспраўнымі тармазамі і рулявым кіраваньнем;

б) калі цячэ радыятар або бэнзынавы ці масьляны бак ці трубаправоды;

в) з трэснуўшай або надтрэснутай рамай, калі яна добра не папраўлена;

г) з няспраўнымі коламі;
д) бяз корабу;
е) з дымам пры працы матору;
ж пры няпоўным наборы шасьцярней у каробцы скорасьцяй;
з) з няспраўнаю пярэднюю восьсю.

Калі патрабаваньні, паказаныя у п. п. 2 і 3, ня выконваюцца, то нумаровы знак адбіраецца і выдаецца зноў пасьля зьнішчэньня выяўленых няспраўнасьцяй у машыне.

Выданыя на аўтамабілі ці матацыклы нумаровыя знакі пераносіць на другую машыну, хоць і належачую таму самаму ўласьніку, забараняецца.

## III. Правілы руху аўтамабіляў і матацыклаў.

9. Пры руху па дарогах аўтамабілі і матацыклы падпарадкоўваюцца агульным правілам руху па гэтых дарогах.

10. Ехаць трэба прытрымліваючыся правага боку і ня зрэзваючы вуглоў пры паваротах і пераездах.

11. Экіпажы, якія едуць ўперадзе, аб'яжджаюцца з левага боку па напрамку руху, за выключэньнем трамвайных вагонаў, якія аб'яжджаюцца з правага боку.

З двух асоб, якія едуць з рознаю хуткасьцю ў адным напрамку, абганяючы павінен падаваць сыгналы гудком аб сваім набліжэньні і не абганяць, пакуль не пачуе адказнага гудку.

Язда навыперадкі на аўтамабілях і матацыклах забараняецца.

12. Пры зьмяншэньні ходу,прыпынках і паваротах даваць сыгналы для папярэджаньня тых асоб, якія едуць ззаду, кіраўнік аўтамабілю павінен падаць знак падыманьнем рукі ўверх—знак прыпынку, выцягваньнем рукі ўправа—паварот направа, а рукою ўлева—паварот машыны ўлева.

Пры прыпынках на вуліцах трэба станавіцца ўсьцяж тратуару ў адзін рад з іншымі экіпажамі па напрамку язды, не загароджваючы праездаў варот і не перашкаджаючы вулічнаму руху.

Перад крыжаваньнямі вуліц, перад закрытымі паваротамі, калі далейшы вучастак дарогі закрыты для вачэй, трэба даваць сыгналы.

Калі дзьве павозкі набліжаюцца да адкрытых крыжаваньняў, шофэр, які бачыць павозку, якая набліжаецца справа, павінен даваць дарогу. Як агульнае правіла, трэба зьмяншаць хуткасьць і ўступаць дарогу тым, хто едзе справа.

13. Пры сустрэчы з маніфэстацыямі, пахавальнымі і іншымі працэсіямі, пажарнымі абозамі, часьцямі войск, якія праходзяць, трэба спыняцца і чакаць аслабаненьня дарогі.

14. Пры пераездах аўтамабілю і матацыклу праз гарады і паселішчы хуткасьць руху не павінна перавышаць 25 клм. у гадзіну. Пры язьдзе за гарадамі і паселішчамі забараняецца разьвіваць хуткасьць больш 60 клм. у гадзіну.

Максымальная хуткасьць язды ў гарадох аўтамабілю і матацыклу можа, па пастанове гарадзкога савету, зьмяняцца ў залежнасьці ад мясцовых умоў, але не павінна перавышаць 25 клм. у гадзіну.

Гэтае правіла не пашыраецца на аўтамабілі і матацыклы пажарных каманд і міліцыі, якія накіроўваюцца на пажары.

15. Пры сумесным руху па дарогах аўтамабіляў з іншымі падарожнымі і пераходнымі, павінны ўжывацца захады да адхіленьня небясьпекі пры сустрэчы і да магчыма меншага перашкоджаньня руху. Хуткасьць руху аўтамабілю павінна быць зьменшана, калі яны ідуць у месцах зграмаджаньня фурманак і пешаходаў, у месцах перасеку дарог, на паваротах і, наогул, дзе ёсьць небясьпека руху.

16. Пры сустрэчы аўтамабілю з пужлівымі коньмі кіраўнік аўтамабілю павінен зараз-жа спыніць яго і дапамагчы адхіленьню няшчасных выпадкаў.

17. У гарадох і залюднёных пунктах забараняецца язда з адкрытым глушыцелем, а таксама з выпушчаньнем вялікага дыму.

18. На прыпынках забараняецца пакідаць аўтамабіль без дагляду з працуючым маторам.

19. Пры язьдзе па дарогах трэба зварочваць увагу на дарожныя міжнародныя знакі.

20. Кожны аўтамабіль павінен падаць дапамогу свайму таварышу, які просіць яе. Апошні патрабуе дапамогі наступнымі сыгналамі: 1) удзень—махаючы рукою проста дарозе, павярнуўшыся тварам да аўтамабілю, які ён просіць спыніцца, або вывешваючы на відным месцы на аўтамабілі белы сьцяг, які ў выпадку патрэбы можа быць заменены хусткай, 2) ноччу—махаючы ліхтарам па напрамку дарогі.

21. Паводле патрабаваньня міліцыі кіраўнік аўтамабілю павінен везьці агентаў міліцыі, якія даганяюць уцякаючы экіпаж або злачынца, а таксама для паведамленьня аб пажары ў бліжэйшую пажарную часьць і ў іншых выключных выпадках. Паводле патрабаваньня кіраўніка аўтамабілю, агент міліцыі павінен даць расьпіську, з паказаньнем дзеля чаго і на які час быў скарыстаны аўтамабіль.

## IV. Правілы дапушчэньня асоб да кіраваньня аўтамабілямі і матацыклямі.

22. Да кіраваньня аўтамабілямі і матацыклямі дапушчаюцца толькі асобы, якія атрымалі пасьведчаньні на права кіраваньня, выданыя экзаменацыйнымі камісіямі Белдартрансу (б. Беламесу), дартрансаў, абласных і акруговых дар.-аўтамаб. аддзелаў іншых рэспублік.

Асобы, якія прыбылі на тэрыторыю БССР, павінны падаць у мясцовыя акруговыя экзаменацыйныя камісіі пасьведчаньні, якія ёсьць ў іх на права кіраваньня машынамі.

Асобы, якія атрымалі годнасьць шофэраў першае катэгорыі, маюць права язды на аўтамабілях усіх сыстэм і ўсялякай магутнасьці, другое катэгорыі—на новых машынах ня вышэй 25 н. с. на ўсіх старых машынах, 3-е катэгорыі—толькі на старых машынах увозу да 1920 г.

23. Права быць шофэрамі (вадзіцелямі) маюць усе грамадзяне пры захаваньні наступных умоў:

а) узрост асоб, якія кіруюць аўтабусамі агульнага карыстаньня, не павінен быць менш 20 год, а для асоб, якія кіруюць іншымі аўтамабілямі і матацыклямі—ня менш 18 год;

б) у экзаменацыйную камісію па іспыту шофэраў павінны быць пададзены для атрыманьня шофэрскага пасьведчаньня: пасьведчаньне псыхатэхнічнае лябараторыі аб годнасьці да выкананьня абавязкаў шофэра (вадзіцеля) і дзьве фатаграфічныя карткі, зьнятыя без галаўнога ўбору; калі ў тым пункце, дзе падана заява аб выдачы шофэрскага пасьведчаньня, няма псыхатэхнічнае лябараторыі, то заяўнік абавязкова падлягае мэдыцынскаму агляду ў органах НК Аховы Здароўя для вызначэньня адпаведнасьці яго фізычнага і псыхічнага стану ўстаноўленым нормам, аб чым і падае ад гэтых органаў адпаведнае пасьведчаньне;

в) здаць у экзаменацыйнай камісіі іспыты па тэорыі аўта-ці мотосправы і па практычнай язьдзе. Для асоб, якія не працуюць у якасьці шофэра (вадзіцеля) па найму, іспыты праводзяцца толькі па практычнай язьдзе, з адзнакай у пасьведчаньні „бяз права прафэсіі“.

Асобы, якія здалі іспыты ў школах і камісіях з удзелам прадстаўнікоў дартрансу, абласных дарадзелаў, пры пераезьдзе на жыцьцё

ў іншыя гарады, не падлягаюць паўторнаму іспыту і іх шофэрскія пасьведчаньні захоўваюць моц;

г) кожны шофэр (вадзіцель) павінен ведаць пастанову мясцовае ўлады аб парадку руху ў тых пунктах, дзе ён працуе;

д) асобам, якія вытрымалі тэарэтычны і практычны іспыт на права кіраваньня аўтамабілямі і матацыкламі, выдаецца пасьведчаньне ўстаноўленага Цудартрансам узору.

24. Перадача пасьведчаньня іншай асобе забараняецца. У часе язды пасьведчаньне павінна быць заўсёды ў шофэра машыны.

25. Экзаменацыйная камісія па іспыту шофэраў на права кіраваньня аўтамабілямі і матацыкламі ўтвараецца Белдартрансам у складзе прадстаўніка аўтамабільнага аддзелу ці ўпаўнаважанае ім асобы і членаў: аднаго—ад выканаўчага камітэту і аднаго—ад прафсаюзу транспартных рабочых. Зазначаныя вышэй камісіі падаюць матарыялы па іспыту ў Белдартранс для атрыманьня адзіных шофэрскіх пасьведчаньняў на права кіраваньня машынамі.

Начальнік Галоўнага Кіраўніцтва
Шосавых і Грунтавых Дарог і Аўтамабільнага
Транспарту БССР *Яцкевіч.*

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

---

Зацьверджана Калегіяй НК РСІ БССР
17-VI 1929 г.
(Прат. пасядж. Калегіі НК РСІ БССР
№ 32, п. 1).

## 17. Пастанова Калегіі Народнага Камісарыяту Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР

### пра правядзеньне вясеньняй пасеўнай кампаніі 1929 г.

Выслухаўшы даклад члена Калегіі НК РСІ БССР т. Лазоўскага і старшага інспэктара НК РСІ СССР т. Маржаедава аб выніках праверкі работы савецкіх органаў па выкананьню пастановы IV-й сэсіі ЦВК Саюзу ССР аб мерах да падвышэньня ўраджайнасьці і пастановы СНК БССР за 20-XII 1928 г. аб мерах да падвышэньня ўраджайнасьці і вытворчасьці сельскай гаспадаркі, а таксама даклад аб мерапрыемствах па правядзеньню вясеньняй пасеўнай кампаніі 1929 г., Калегія Народнага Камісарыяту Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі прызнае, што вясеньняя пасеўная кампанія бягучага году праходзіла пад знакам значнага ажыўленьня як з боку савецкіх органаў, так і савецкай грамадзкасьці і была накіравана на падвышэньне вытворчасьці сельскай гаспадаркі—бядняцка-серадняцкай масы вёскі, на ўзмацненьне калектывізацыі сельскай гаспадаркі і на ўздым ураджайнасьці ў адпаведнасьці з пастановамі Ўраду СССР і БССР.

У паасобку Калегія НК РСІ адзначае:

а) разьмер зярнаачысткі павялічыўся больш як у 3 разы, прадукцыйнасьць зернаачышчальных машын узрасла ў 2 разы ў параўнаньні з мінулым годам і да часу пасеву (на 15-V) ачышчана ў сярэднім да 50% усяго пасеўнага матарыялу (104 тыс. тон).

Аднак, па асобных акругах і асабліва раёнах і сельсаветах разыходжаньне процанту выкананьня пляну ачысткі надзвычайна вялікае: Полацкая акруга выканала на 48,8%, Менская—на 117%;

б) патрэба ў сельгаспадарчых машынах і прыладах, апроч культыватараў, палольнікаў, трыераў, трактараў і акучнікаў, у асноўным задаволена; адначасна павялічалася прадукцыя заводаў сельскагаспадарчага машынабудаўніцтва БССР;

в) выходзячы з матарыялаў абсьледваньня паасобных сельсаветаў, а таксама з разьмеру задавальненьня сродкамі вытворчасьці ў вясеньнюю пасеўную кампанію, трэба лічыць, што будзе зроблена агульнае пашырэньне пасеўных плошчаў, асабліва тэхнічных культур і стабільнасьць ці скарачэньне пасеву траў у зьвязку з недахопам насеньня гэтых траў;

г) зьмяніўся напрамак калектывізацыі як у бок колькаснага павялічэньня калгасаў, так і ў бок, хоць і недастатковага, узбуйненьня іх, пры гэтым працэс калектывізацыі праходзіць пераважна за лік надзельных сялянскіх зямель;

д) узмацнілася вытворчае значэньне кантрактацыі, павялічыўся ахоп кантрактацыяй бядняцка-серадняцкіх колаў вёскі і калгасаў, павялічылася групавая кантрактацыя;

е) агітацыйна-растлумачальная праца ў часе вясеньняй пасеўнай кампаніі значна палепшылася ў параўнаньні з мінулым годам; павялічыўся ўдзел у пасеўнай кампаніі камсамолу, друку, школьных працаўнікоў і часткова жанчын-дэлегатак і рабочых брыгад;

ж) пашыраюцца пасевы тэхнічных культур у саўгасах і калгасах, узмацнілася выданьне папулярнай с.-г. літаратуры, павялічаны асыгнаваньні на арганізацыю сэлекцыйнай працы, на змаганьне са шкоднікамі сельскай гаспадаркі, паляпшаецца матарыяльнае становішча і ўмовы працы агранамічных працаўнікоў, пляны і праграмы народнай асьветы перааапрацоўваюцца ў бок іх агранамізацыі, праведзен значны збор попелу і г. д.

Аднак, Народны Камісарыят Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР у справе правядзеньня вясеньняй пасеўнай кампаніі і ўздыму ўраджайнасьці адзначае цэлы шэраг недахопаў:

1. Са запазьненьнем распрацаваны ВСНГ, НКЗ і Белсельсаюзам праект аб палепшаньні якасьці і зьніжэньні сабекошту с.-г. машын і прыладаў да гэтага часу ня мае практычнага ўжываньня і знаходзіцца ў стадыі праходжаньня ў ЭКАНА.

Эканамічная Нарада ня выканала пастановы СНК БССР аб выпрацоўцы стандарту асартымэнту машын і прыладаў у адпаведнасьці з умовамі і патрэбамі сельскай гаспадаркі БССР. Выкананьне даручэньняў праходзіць марудна.

2. НК Земляробства не распрацавана пытаньне аб прынцыпах арганізацыі трактарных калён, станцый і ўжываньня іх на мінэральных землях. Праведзеная да гэтага часу работа абмяжоўваецца скарыстоўваньнем трактарных груп толькі на мэліарацыйным дзяржаўным фондзе.

3. Белмэталётрэст на працягу вясеньняй пасеўнай кампаніі неакуратна, са значным спазьненьнем выконваў абавязацельствы перад машыназадавальняючымі арганізацыямі; у паасобку, па заводу „Чырвоны Мэталіст“ на 1-V па паасобных тыпах плугоў выкананьне хістаецца ад 15 да 86%, а на 1-V агульнае недавыкананьне па Мэталётрэсту па плугох складае 11,4%, для Белсельсаюзу—на 29%.

4. Недастаткова разгорнута праца па насенаводзтву, а Белсельсаюзам ня выканана пастанова СНК за 20-XII 1928 г. аб разгортваньні працы насенаводнай капярацыі. Белсельсаюзам практычна нічога ў гэтым ня зроблена, нават плянам працы не прадугледжана арганізацыя насенаводнай капярацыі.

5. Замена звычайнага насеньня камітэтаў сялянскай узаемадапамогі на чыстагатунковае не арганізавана.

НКЗемам ня прыняты меры да пашырэньня сеткі паказальных вучасткаў з чыста-гатунковым насеньнем як у пасёлках, так і ў землеўпарадкаваных вёсках.

Не зацьверджана палажэньне аб арганізацыі фонду прэм'яваньня і дачы льгот гаспадаркам, пасёлкам і вёскам, якія пераходзяць да пасеву чыстагатунковым насеньнем.

6. НКЗемам, НКФ, Белсельсаюзам, Белсельбанкам і Эканамічнаю Нарадаю пастанова СНК аб распрацоўцы палажэньня пра арганізацыю дзяржаўнага насеннага фонду выканана са спазьненьнем на 3 месяцы.

7. Недавыкананы пляны задавальненьня насеньнем пасеўных траў і мінэральнымі ўгнаеньнямі з прычыны недастатковага завозу з замежжаў БССР і недастаткова актыўнай загатоўкі сыстэмай с.-г. капярацыі, што ўскладняе задачу рэканструкцыі і падвышэньня вытворчасьці сельскай гаспадаркі.

8. Устаноўлены выпадкі скажэньня дырэктывы аб пераважным задавальненьні сродкамі вытворчасьці бядняцка-серадняцкіх колаў вёскі, галоўным чынам, у задавальненьні насеньнем (Сеннянскі раён, Беліцкі сельсавет), недастаткова ахоплена кантракцыяй бедната (з законтрактаваных 10.254 двароў індывідуальна на беднату прыпадае 25,2%, сераднякоў—35,5% і заможных—3,1%, а ў некаторых мясцох процант апошніх дасягае да 7% (Беліцкае крэдытнае т-ва), недастаткова скарыстаны фонды крэдытаваньня і капераваньня беднаты: на 1-IV нескарыстаных сродкаў па Менскай акрузе з фонду капераваньня налічваецца 70%, з фонду крэдытаваньня—39%, па Мазырскай—61 і 47% з адначасовым адмаўленьнем беднаце ў крэдытах (Лапіцкае, Старобінскае крэдытныя т-вы).

9. Кантракцыя пасеваў і асабліва кантрактацыя жывёлы ў значнай меры мае характар звычайнай загатоўчай апярацыі, з прычыны таго, што агранамічны і зоотэхнічны ўплыў кантрактацыі на кантрактуючую гаспадарку ў практыцы кантрактацыі быў недастатковы.

НКЗ, сыстэмай с.-г. капярацыі, а таксама Белдзяржгандлем ня прыняты дастатковыя і практычныя меры да выкананьня кантрактантам агранамічных мерапрыемстваў, што абумоўлены дагаворам.

10. Даручэньне СНК БССР аб пабудове фасфарытнага заводу ажыцьцяўляецца марудна і пуск гэтага заводу да ўстаноўленага СНК тэрміну, пры існуючым тэмпе работы ВСНГ, не забясьпечан.

11. Падрыхтоўчая праца па вапнаваньню глебы да гэтага часу праходзіла недапушчальна марудна. Пастанова СНК БССР аб 100% пашырэньні пасеву лубіну бязумоўна выканана ня будзе з прычыны недахопу насеньня. Работа па пабудове мэханізаванага заводу для вырабу торпавай падсьцілкі ня толькі не пачата, але да апошняга часу было невядома, хто наогул будзе будаваць завод.

12. Усе мерапрыемствы, зьвязаныя з палепшаньнем жывёлагадоўлі і вырашэньнем кармовай праблемы і абумоўленыя пастановаю СНК БССР за 20-XII 1928 г. абмеркаваны Калегіяй НКЗ толькі 17-га мая. Выкананьне пастановы СНК БССР аб абавязковым увядзеньні ў кожным насельным пункце з лікам ня менш 20 двароў аднаго быка-вытворніка па сутнасьці абмежавалася выданьнем НКЗемам адпаведнага абежніку. Не распрацавана Палажэньне пра аплату за карыстаньне вытворнікам.

13. Разгортваньне працы па замене незаводзкай жывёлы ў саўгасах завадзкою недастаткова. Ня выканана даручэньне СНК аб складаньні пляну арганізацыі статку ў калгасах.

Прадукцыя Вэтэрынарна-Бактэрыялёгічнага Інстытуту ў справе вырабу процізаразных сываротак як і раней мізэрная і задавальняе ад 2-х да 12% патрэбы.

14. Работа НКЗ у справе сіласаваньня кармоў разгорнута недастаткова. НКЗемам ня выканана пастанова СНК аб падачы праекту ў СНК пра абавязковае выдзяленьне плошчаў пад штучныя выганы пры правядзеньні земляўпарадкаваньня.

15. У пэрыад пашырэньня мерапрыемстваў па падвышэньні ўраджайнасьці—у 1928-29 годзе недаўкамплектаваны штаты каморнікаў на 22%, а штаты аграномаў на 21,4%, што тлумачыцца больш нізкаю аплатаю працы агратэхнічных сіл у БССР у параўнаньні з іншым раёнамі СССР і як вынік гэтага, наглядаюцца значныя выезды спэцыялістаў, якія канчаюць Горацкую с.-г. акадэмію, аднак, ня гледзячы на гэта, НКЗемам ня былі скарыстаны дастакова ўсе магчымасьці ў справе прыцягненьня агратэчніных і земляўпарадчых сіл. Гэтая акалічнасьць можа ў значнай меры затрымаць выкананьне пяцігадовага пляну разьвіцьця сельскай гаспадаркі БССР.

16. Ня гледзячы на некаторыя дасягненьні ў справе ўзбуйненьня арганізуемых калгасаў, усё-ж у некаторых акругах (Магілеўскай, Віцебскай і Менскай) акруговыя арганізацыі зварочвалі больш увагі на колькасны бок справы за кошт якасьці ў сэнсе разьмеру плошчы і арганізацыйна-гаспадарчага ўзмацненьня. Земляўпарадкаваньне калгасаў, па прыкладу мінулых гадоў, праходзіць слаба і не пасьпявае з ростам арганізацыі новых калгасаў.

17. Нездавальняюча праведзена праца па ачыстцы насеньня ільну. НКЗем і Белсельсаюз да гэтай справы падыйшлі фармальна. Акруговых плянаў па ачыстцы ня было.

Нагляд за ходам справы не арганізаваны і, як вынік усяго гэтага, ні НКЗ, ні Белсельсаюз ня ведаюць, у якім разьмеры праведзена ачыстка насеньня. На 1|V па Аршанскай, Магілеўскай, Менскай і Віцебскай акругах плян ачысткі выканан толькі на 75%.

18. Агрыкультурнае абслугоўваньне ільнаводзтва пастаўлена дрэнна. Па лініі НКЗ на 1|V-29 г. працавала 5 раённых інструктароў і 1 акруговы і па лініі с.-г. капярацыі—1 раённы інструктар і 5 працаўнікоў ў акругах па сумяшчальнасьці.

19. Праца па рамонту с.-г. інвэнтару была разгорнута вельмі недастаткова, са значным эпазьненьнем, што тлумачыцца недастаткова ўважлівымі адносінамі да гэтай справы НКЗ, Белсельтрэсту, Белкалгассаюзу, камітэтаў сялянскай узаемадапамогі і сыстэсы с.-г. капярацыі. Недастаткова была зьвернута ўвага на арганізацыю майстэрняў па рамонту складаных машын; Белмэталётрэстам ня выканана цалкам пастанова СНК аб арганізацыі цэхаў пры заводах Мэтпрому па рамонту складаных машын.

20. Мерапрыемствы па змаганьні са шкоднікамі ня былі разгорнуты ў такім разьмеры, якія-б адпавядаў матарыяльным магчымасьцям. Ад мінулага году засталіся значныя астачы сродкаў на змаганьне са шкоднікамі і, мяркуючы па рабоце, матарыяльныя рэсурсы ня будуць скарыстаны і ў бягучым годзе. Пратручваньне насеньня выканана ў мізэрных разьмерах. І самае галоўнае, праца па змаганьні са шкоднікамі ня была разгорнута, як масавая праца, да 1|VI.

21. Ня гледзячы на пастанову СНК БССР за 22|XII-28 г. аб аслабаненьні раённага агрaпэрсаналу ад па-заплянавых работ, раённы агранамічны пэрсанал і часткова акруговы, як і раней, загружаецца няплянавай, неналежачай яму работай і справаводзтвам, дзякуючы неда-

статкова ўважлівым адносінам да гэтага пытаньня раённых і акруговых устаноў і арганізацый.

22. Па сутнасьці недастаткова распрацавана пытаньне аб формах агранамічнай працы, накіраваных на ўзьняцьце самадзейнасьці і ініцыятывы шырокіх сялянскіх мас праз канфэрэнцыі, вытворчыя нарады, сялянскія, грамадзкія, каперацыйныя і прафсаюзныя арганізацыі.

23. Зямельныя органы і агранамічныя працаўнікі надзвычайна позна пачалі работу па правядзеньню сельска-гаспадарчых курсаў, дзякуючы чаму амаль уся сетка аграпэрсаналу была адцягнута ад непасрэднай масавай працы ў вёсцы па падрыхтоўцы да вясеньняй пасеўнай кампаніі.

24. НКЗемам і НКФінам ня выканана пастанова СНК БССР аб утварэньні спэцыяльнага фонду прэм'яваньня асобных гаспадарак і агранамічных працаўнікоў за агранамічныя палепшаньні.

25. Выданьне закону аб аграмінімуме праводзілася вельмі марудна і закон на мясцох паступіў позна. З яшчэ большым спазьненьнем было выдана палажэньне аб аграўпаўнаважаных і праца іх як трэба не пачалася, а шмат аграўпаўнаважаных недастаткова падрыхтаваны да вырашэньня пастаўленых перад імі задач.

26. НКАсьветы яшчэ ня скончана праца па распрацоўцы плянаў рэарганізацыі народнай асьветы ў адпаведнасьці з задачамі, пастаўленымі перад сельскаю гаспадаркаю.

27. Прапрацоўка плянаў вясеньняй пасеўнай кампаніі і ўздыму ўраджайнасьці мела, асабліва ў сельсаветах, агульны характар. Як правіла, прымаліся рэзалюцыі без усякай канкрэтызацыі патрэбных мерапрыемстваў.

28. Праца па растлумачэньні закону аб с.-г. падатку вельмі спазьнілася. Інструкцыйныя паказаньні паступілі ў сельсаветы ў канцы красавіка, а асноўная праца праводзілася ў маі м-цы. Выданая НКФінам брашура да пасеўнай кампаніі паступіла ў сельсаветы толькі ў сярэдзіне мая.

29. Асабліва нездавальняюча ў значнай частцы праводзілася праца па пасеўнай кампаніі камітэтамі сялянскай узаемадапамогі. Ня было плянавасьці ў рабоце, са спазьненьнем пададзены заяўкі на насеньне і ўгнаеньне бяз шырокага абгаварэньня на сходах беднаты, са спазьненьнем пачата праца па рамонту інвэнтару, недастаткова ўлічаны патрэбы беднаты, а ў большасьці выпадкаў сельскія камітэты ўзаемадапамогі зусім не далі заявак на насеньне і ўгнаеньне для беднаты і не прасачылі за выкананьнем крэдытаваньня беднаты; з боку сельска-гаспадарчай капярацыі таксама ня было дастаткова зьвернута ўвагі на сваячасовае забясьпечаньне беднаты насеньнем з насеннага фонду.

30. Праца па арганізацыі с.-г. выстаўкі праходзіць вельмі марудным тэмпам. Да гэтага часу няма пляну арганізацыі выстаўкі, да пытаньняў выстаўкі ня прыцягнута грамадзкая ўвага, у акругах не вядзецца ніякай падрыхтоўчай працы, цэнтральныя ўстановы не бяруць блізкага ўдзелу ў арганізацыі с.-г. выстаўкі.

31. Плянаваньне вясеньняй кампаніі праводзілася нездавальняюча: ня было дастатковай увязкі, як у цэнтры, так і паміж плянамі цэнтру і акруг, акруг і раёнаў, раёнаў і сельсаветаў, абгрунтаваньне плянаў практыкавалася ў акругах і раёнах выключна на практыцы мінулых гадоў і магчымых меркаваньнях без скарыстаньня эканамічна-разьліковых матарыялаў вопытна-дасьледчых устаноў раёну пры поўнай адсутнасьці цьвёрдых заявак. Складаньне плянаў праводзілася без дастаткова распрацаванай арыентыровачнай устаноўкі з боку НКЗ і

яго органаў, са значным спазьненьнем і не па мэтаду—зьнізу ўверх, а, наадварот, у большасьці выпадкаў без раённых разрэзаў і разрэзаў па сацыяльных сэктарох, што выклікала часткова няправільнае разьмеркаваньне сродкаў вытворчасьці па акругах, раёнах, а таксама выклікала недазагатоўку насеньня.

32. Інструктаваньне праз нарады агранамічных працаўнікоў па падрыхтоўцы да вясеньняй пасеўнай кампаніі і складаньню плянаў практыкавалася вельмі часта не на абгрунтаваных канкрэтных матарыялах даннага раёну акругі, а на чыста тэарэтычных даных.

33. Складаньне акруговых пэрспэктыўных плянаў разьвіцьця сельскай гаспадаркі ў адпаведнасьці з плянам разьвіцьця народнай гаспадаркі БССР, зацьверджаным IX Усебеларускім Зьездам Саветаў, вядзецца вельмі марудна, а ў некаторых акругах гэтая праца зусім не пачата, што ўскладняе практычнае плянаваньне паасобных мерапрыемстваў.

34. Крэдытаваньне сельскай гаспадаркі да сакавіка м-ца фактычна праводзілася бяз пляну, што не давала ўпэўненасьці акруговых арганізацый у плянаваньні тых ці іншых мерапрыемстваў. Недастатковa скарыстаны фонды капераваньня і крэдытаваньня беднаты, што тлумачыцца няўважлівымі адносінамі да гэтага пытаньня каперацыйных, крэдытных і савецкіх органаў, а таксама адсутнасьцю належнага кантролю з боку Белсельбанку за правільным і сваячасовым скарыстаньнем іх.

Выходзячы з зазначанага вышэй, Калегія Народнага Камісарыяту Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі пастанаўляе:

1. Зьвярнуць увагу НКЗ, Белкалгассаюзу і іх органаў на мясцох на зусім невыстарчальнае выкананьне дырэктывы і пастановы СНК аб разьмерах зямельных плошчаў нова-арганізуемых калгасаў, на няпоўнае земляўпарадкаваньне іх і на недастатковую працу па ўзмацненьню старых калгасаў (саўгасаў); адначасна прапанаваць прыняць рашучыя захады да ўзмацненьня старых калгасаў (саўгасаў), цалкам земляўпарадкаваць як старыя, так і новыя калгасы да 1 жніўня 1929 г., узмацніць агранамічнае абслугоўваньне праз больш шырокую арганізацыю куставых аб'яднаньняў, праз выданьне і ўкараненьне ў сялянскія і калгасныя колы насельніцтва спэцыяльнай літаратуры па калектывізацыі. Пры арганізацыі новых калгасаў скарыстаць вопыт Бабруйшчыны, імкнуцца да калектывізацыі цэлых вёсак і паселішчаў, не адступаючы ад устаноўленай нормы (140 гкт.) у бок пямяншэньня зямельнай плошчы. Адначасна трэба ўзмацніць працу па ўзбуйненьню дробных калгасаў праз аб'яднаньне сумежных гаспадарак, праз далучэньне новых сялянскіх вучасткаў, а таксама і працу па дадатковаму ўкамплектаваньню старых калгасаў, галоўным чынам, за лік уцягненьня вясковай беднаты.

2. Абавязаць НКЗем і Белсельсаюз распрацаваць сыстэму мерапрыемстваў, забясьпечваючых узмацненьне агрыкультурнага і зоотэхнічнага ўплыву кантрактацыі на кантрактуемыя культуры паляводзтва і віды жывёлы праз абавязковы і непасрэдны ўдзел аграпэрсаналу раёну ці спэцыяльна ўтвараемага для гэтай працы, у падрыхтоўцы да кантрактацыі, самым правядзеньні апошняй і далейшым абслугоўваньні кантрактуемых гаспадарак з тым, каб гэтыя мерапрыемствы маглі быць практычна ажыцьцяўлены ў часе пасеўнай кампаніі 1929|30 г.

3. Запрапанаваць НКЗ распрацаваць мэтады і прынцыпы арганізацыі трактарных калён, станцый і спосабы іх найбольш эфэктыўнага скарыстаньня, побач з ужываньнем апошніх на мэліараваных землях,

ужываньне на мінэральных землях, асабліва з пункту погляду калектывізацыі сялянскіх гаспадарак, абслугоўваньня пасёлкаў, калгасаў, саўгасаў і інш. вытворчых каперацыйных аб'яднаньняў.

Лічачы зусім недапушчальным наяўнасьць да гэтага часу выпадкаў скажэньня клясавай лініі ў вёсцы ў пэрыяд правядзеньня мерапрыемстваў па пасеўнай кампаніі і ўздыму ўраджайнасьці, запрапанаваць Белсельсаюзу, Белсельбанку і НКЗему, а таксама нізавым іх органам пры правядзеньні кантрактацыі рашуча імкнуцца да ахопу ўсёй вясковай беднаты з прыцягненьнем значнай часткі серадняцтва, не дапушчаючы пры гэтым закантрактоўваньня беднаты (па прыкладу 1928 г.); пры загатоўцы і задавальненьні сродкамі вытворчасьці вёскі, побач з поўным пазачарговым задавальненьнем гэтымі сродкамі саўгасаў, калгасаў, поўнасьцю забясьпечыць беднату праз атрыманьне пэўных заявак ад камітэтаў сялянскай узаемадапамогі. У галіне скарыстаньня крэдытаў па фонду каперавання і крэдытаваньня беднаты запрапанаваць Белсельсаюзу і Белсельбанку паскорыць выкананьне пастановы дырэктыўных органаў і НК РСІ аб правядзеньні поўнага абсьледваньня нізоўкі і ўстанаўленьня прычын нескарыстаньня крэдытаў. Адначасна ўжыць рашучыя захады да недапушчэньня скарыстаньня фондаў на камэрцыйныя апярацыі, на выдачу пазык заможным і г. д.

4. Цэнтральнаму Камітэту сялянскіх т-ваў узаемадапамогі распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы па рашучаму зьнішчэньню недахопаў у працы сельскіх камітэтаў, асабліва зьвярнуць увагу на працу па поўнаму ўцягненьню ў члены таварystваў вясковай беднаты з мэтаю максымальнага ўцягненьня ў калгасы, у вытворчыя каперацыйныя аб'яднаньні, у кантрактацыю, а таксама па найбольш поўнаму абслугоўваньню яе ў забясьпечаньні сродкамі вытворчасьці ў зьвязку з пасеўнымі кампаніямі і мерапрыемствамі па ўздыму ўраджайнасьці, своячасова складаючы сьпісы беднаты і падлічаючы патрэбы яе, абмяркоўваючы на сходах беднаты і ўключаючы ў пляны загатовак, задавальняючы сродкамі вытворчасьці с.-г. крэдытнымі т-вамі.

5. Адзначыць з боку Праўленьня Белсельсаюзу недапушчальную маруднасьць у справе выкананьня пастановы СНК за 20/XII-28 г. аб узмацненьні насеннаводнай капярацыі, за што апошняму паставіць на від, абавязаўшы адначасова НКЗ і Белсельсаюз у двухмесячны тэрмін распрацаваць пяцігадовы пэрспэктыўны плян разьвіцьця насеннаводнай капярацыі з такім разьлікам, каб гэтая капярацыя была падрыхтавана да штогадовага асваеньня насеньня трэцяй рэпрадукцыі, якое вырашчваецца саўгасамі.

6. Запрапанаваць НКЗему, Белсельсаюзу і ВСНГ з прыцягненьнем адпаведных арганізацый распрацаваць плян арганізацыі рамонтных майстэрняў і палепшаньня абсталяваньня існуючых майстэрняў з тым, каб да пачатку вясеньняй пасеўнай кампаніі патрэба бядняцка-серадняцкіх колаў вёскі ў справе рамонту с.-г. машын і прыладаў была поўнасьцю забясьпечана, а таксама каб была забясьпечана і патрэба ў рамонце складаных машын і прыладаў.

7. Запрапанаваць НКЗ выканаць пастанову СНК аб мерапрыемствах па арганізацыі прадукцыйных статкаў жывёлы ў калгасах, адначасна зьвярнуць увагу НКЗ на зусім недастатковую выпрацоўку процізаразных сываротак Вэтэрынарна-бактэрыялёгічным Інстытутам і недастатковую падрыхтоўку да сіласаваньня кармоў у саўгасах і калгасах.

8. Абавязаць НКЗ, Белсельсаюз, камітэты сялянскай узаемадапамогі, Белкалгассаюз і Белсельтрэст строга ўвязаць мерапрыемствы па арга-

нізацыі зернаачышчальных пунктаў і абозаў, склаўшы сваечасова і цьвёрдыя пляны з адпаведнымі каляндарнымі плянамі працы пунктаў і абозаў.

9. Абавязаць Белсельсаюз і яго органы зьвярнуць асаблівую ўвагу на сваечасовы завоз новых і рамонт старых зернаачышчальных машын і на правільнае разьмеркаваньне іх па паасобных раёнах у адпаведнасьці з паказаньнямі зямельных органаў.

10. Запрапанаваць арганізацыям, якія загадваюць зернаачышчальнымі пунктамі і абозамі, устанавіць дыфэрэнцыраваныя расцэнкі на зернаачыстку ў залежнасьці ад сацыяльнага складу кліентуры і ачышчаць насеньне беднаты бясплатна.

11. Запрапанаваць НКЗему з прыцягненьнем адпаведных арганізацый распрацаваць да 1/IX-29 г. сыстэму мерапрыемстваў, якія забясьпечваюць скарачэньне плянуючых органаў па правядзеньню работ, зьвязаных з пасеўнымі кампаніямі і падвышэньнем ураджайнасьці, а таксама забясьпечваючы інструктаваньне, спрашчэньне і ўніфікацыю плянаў з тым, каб у аснову плянаваньня быў пакладзен прынцып пабудовы плянаў на цьвёрдых заяўках зьнізу ўверх.

12. Запрапанаваць НКЗ, Белсельсаюзу і іх органам пачаць сваечасова падрыхтоўчую работу да пасеўнай кампаніі з тым, каб пляны, інструкцыі, загады і інш. былі сваечасова складзены, зацьверджаны і паступілі на месцы не пазьней сьнежня месяца; тое самае і ў адносінах паступленьня на месцы законаў і загадаў Ураду (аб падвышэньні ўраджайнасьці, с.-г. падатку і г. д.), спэцыяльнай літаратуры, трэба прыняць усе меры да сваечасовага накіраваньня апошніх непасрэдна ў нізавыя органы, мінаючы ведамственыя інстанцыі.

13. Запрапанаваць НКЗему да вясеньняй пасеўнай кампаніі 1929-30 г. распрацаваць пытаньне аб новых формах агранамічнай працы, накіраваных на ўзьняцьце самадзейнасьці і ініцыятывы шырокіх сялянскіх мас праз канфэрэнцыі, вытворчыя нарады, сялянскія грамадзкія, капэрацыйныя і прафсаюзныя арганізацыі, арганізаваўшы для гэтай мэты шырокае абгаварэньне пытаньня агранамічнымі працаўнікамі ў пэрыядычным і спэцыяльным друку, а таксама на зьездах і канфэрэнцыях агранамічных працаўнікоў.

14. Запрапанаваць НК Асьветы паскорыць працу па распрацоўцы плянаў і праграм рэарганізацыі народнай і прафэсійнай асьветы з тым, каб з восені 1929-30 г. навучальныя ўстановы пачалі працаваць на падставе нова-распрацаваных праграм, асьвятляючых пытаньні сельскай гаспадаркі.

15. Запрапанаваць НК Асьветы і НК Працы, на падставе існуючых законаў, разам з зацікаўленымі наркаматамі і прафарганізацыямі, распрацаваць палажэньне, якое-б забясьпечвала разьмер працы па падрыхтоўцы спэцыялістаў у галіне земляўпарадкаваньня і агранаміі, а таксама поўнае скарыстаньне спэцыялістаў, якія канчаюць Горацкую С.-Г. Акадэмію на тэрыторыі БССР з тым, каб выкананьне пяцігадовага пляну па агранамізацыі і ўпарадкаваньню сельскай гаспадаркі было забясьпечана. У паасобку, прасіць НК РСІ СССР узьняць у НК Працы СССР пытаньне аб неабходнасьці рэгуляваньня аплаты працы агратэхнічных і земляўпарадчых сіл па ўсяму СССР.

16. Запрапанаваць ВСНГ, НКЗ, Белсельсаюзу і Стандартнаму Камітэту паскорыць выкананьне пастановы СНК аб распрацоўцы мерапрыемстваў па падвышэньню якасьці і зьніжэньню сабекошту с.-г. машын і прыладаў, а таксама па ажыцьцяўленьню сьціслага асартымэнту

машын і прыладаў на беларускім рынку. Працу скончыць да кастрычніка бягучага году.

17. Зьвярнуць увагу ВСНГ на маруднасьць тэмпу работы па пабудове фасфарытнага заводу і запрапанаваць яму прыняць патрэбныя меры да выкананьня пастановы СНК аб выпуску ўстаноўленай прадукцыі да вясны 1930 г.

18. Запрапанаваць НКЗ у 2-х тыднёвы тэрмін выканаць пастанову СНК БССР аб распрацоўцы палажэньня пра арганізацыю злучных пунктаў у паселішчах з 20-ю дварамі і пра аплату за карыстаньне вытворнікамі прадукцыйнай жывёлы, а таксама палажэньне пра абавязковае выдзяленьне плошчаў пад штучныя выганы пры правядзеньні земляўпарадкаваньня.

19. Зьвярнуць увагу НКЗ на нездавальняючую працу па агранамічнаму абслугоўваньню ільнаводзтва і слабасьць ачысткі насеньня, на адсутнасьць даных аб ачыстцы насеньня і на фармальнасьць плянаваньня гэтай ачысткі і запрапанаваць НКЗ прыцягнуць да дысцыплінарнай адказнасьці інспэктара па ільнаводзтву т. Шатэрніка за фармальныя і няўважлівыя адносіны да даручанай яму справы.

20. Запрапанаваць НКЗ прасачыць за выкананьнем пастановы СНК за 22/XII-28 г. аб аслабаненьні раённага аграпэрсаналу ад па-заплянавай неагрыкультурнай працы.

21. Запрапанаваць НКЗ працягнуць і паглыбіць працу па рацыяналізацыі і спрашчэньню земляўпарадчага працэсу і земляўпарадчай тэхнікі, скарыстаўшы для гэтай мэты вопыт Заходняй Эўропы і іншых рэспублік СССР.

22. Запрапанаваць НКЗ, Белсельсаюзу, Белкалгассаюзу, Белсельтрэсту і ВСНГ прыняць найбольш актыўны ўдзел у падрыхтоўцы да правядзеньня Ўсебеларускай выстаўкі сельскай гаспадаркі і прамысловасьці, а с.-г. групе НК РСІ праводзіць сыстэматычны нагляд за падрыхтоўкаю да арганізацыі выстаўкі.

23. Выходзячы з данага аналізу мерапрыемстваў па падрыхтоўцы і правядзеньню вясеньняй пасеўнай кампаніі і ўздыму ўраджайнасьці, запрапанаваць НКЗ, Белсельсаюзу, Белсельбанку, камітэтам сялянскай узаемадапамогі, а таксама адпаведным акруговым і раённым арганізацыям і ўстановам улічыць у сваіх плянах працы ўсе паказаныя недахопы з мэтаю поўнага зьнішчэньня іх пры падрыхтоўцы да асеньняй пасеўнай кампаніі і вясеньняй кампаніі 1929-30 г.

24. Лічыць недапушчальным з боку НКЗ, НКФ, Белсельсаюзу і Белсельбанку трохмесячнае спазьненьне з распрацоўкай палажэньня аб дзяржаўным насенным фондзе і яго фінансаваньні.

25. Запрапанаваць НКФ, у асобе Народнага Камісара, прыцягнуць вінаватых у несваечасовым разгортваньні кампаніі па растлумачэньні закону аб с.-г. падатку да адказнасьці.

26. Прасіць НК РСІ СССР расьсьледаваць справу аб недапушчальна марудным праходжаньні плянаў крэдытаваньня сельскай гаспадаркі і вясеньняй пасеўнай кампаніі ў Цэнтральным С.-Г. Банку і Дзяржпляне і вінаватых прыцягнуць да адказнасьці.

27. Даручыць с.-г. групе праверку выкананьня гэтай пастановы і аб выніках выкананьня далажыць Калегіі НК РСІ БССР не пазьней 1 кастрычніка 1929 г.

Нам. Народнага Камісара Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР *Конанаў*.

17 чэрвеня 1929 г.

## 18. Інструкцыя Падатковага Кіраўніцтва Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР

### пра прыманьне і справаздачнасьць па адзіным сельска-гаспадарчым падатку на 1929-30 г.

*(Дадатак да інструкцыі НКФ БССР за 15 сакавіка 1929 г. Пра парадак правядзеньня с.-г. падатку").*

### I. Падлік паступленьняў падатку.

§ 1. Плацяжы па сельска-гаспадарчым падатку, што прымаюцца раённымі выканаўчымі камітэтамі, касамі дзяржаўнага банку і дзяржаўнымі працоўнымі касамі ашчаднасьці як непасрэдна ад платнікаў, так і праз пошту, запісваюцца ў асобныя рэестры паступленьняў сельска-гаспадарчага падатку (і акладнога страхаваньня). Рэестры зьяўляюцца асноваю для запісу паступленьняў падатку па кнігах і для вядзеньня падліку выкананьня падатку асобнымі платнікамі.

§ 2. С.-г. падатак прымаецца ад платнікаў пры акладных лістох за выключэньнем тых выпадкаў, калі падатак пераводзіцца праз пошту, альбо касу ашчаднасьці.

§ 3. Аб прыйманьні сельска-гаспадарчага падатку робіцца адзнака ў акладных лістох. Ніякія квітанцыі ў прыйманьні сельгаспадатку не выдаюцца (за выключэньнем выпадкаў уплаты падаткаў праз пошту).

§ 4. У акладных лістох робяцца адзнакі як аб прыйманьні сельгаспадатку, так і аб заліку пераплат або складаньні акладу ці нядоімкі.

§ 5. Для платнікаў свайго раёну раённыя выканаўчыя камітэты адчыняюць рэестры па кожнаму сельскаму савету. Для платнікаў, якія пражываюць у іншых раёнах, раённыя выканаўчыя камітэты адчыняюць адзін рэестр на раён. Рэестры запаўняюцца ў двух экзэмплярах, адзін з якіх застаецца ў раённым выканаўчым камітэце, а другі перасылаецца ў сельскі савет (па плацяжох, прынятых ад платнікаў свайго раёну па данаму сельскаму савету), або ў адпаведны раённы выканаўчы камітэт (па плацяжох, прынятых ад платнікаў іншых раёнаў).

§ 6. Касы дзяржаўнага банку вядуць рэестры паступленьняў па раёнах. Першы экзэмпляр рэестру застаецца ў касе, а другі экз. пасылаецца ў адпаведны раённы выканаўчы камітэт.

§ 7. Пасылка другіх экзэмпляраў рэестраў у сельскія саветы і раённыя выканаўчыя камітэты робіцца не пазьней наступнага аперацыйнага дня.

§ 8. У канцы аперацыйнага дня штодзённа касір раённага выканаўчага камітэту запісвае ў рэестры падлікі паступленьняў па розных крыніцах (аклад, пеня, нядоімка) і зьлічае гэтыя падлікі з наяўнасьцю касы. Пасьля праверкі рэестры штодзённа падпісваюцца загадчыкам фінчасткі раённага выканаўчага камітэту і касірам.

§ 9. Штодзённа падрахункі рэестраў, пасьля іх праверкі, запісваюцца ў касавую кнігу. У апошняй адзначаецца агульная сума паступленьняў падатку за дзень па графе сельгаспадатку.

Агульная сума паступленьняў падатку за дзень запісваецца ў касавую кнігу раённага выканаўчага камітэту. Асобная касавая кніга па сельгаспадатку не вядзецца.

§ 10. Раённыя выканаўчыя камітэты, атрымаўшы другі экзэмпляр рэестраў ад іншых раённых выканаўчых камітэтаў, кас дзяржаўнага банку і кас ашчаднасьці, складаюць па іх сьпісы платнікаў па сель-

скіх саветах (на блянках рэестраў) і адсылаюць іх у належныя сельскія саветы для адзнакі ў асобных рахунках платнікаў (картках).

У касавую кнігу, а таксама ў справаздачнасьці даныя паступленьняў падатку па другіх экзэмплярах рэестраў, якія атрыманы ад іншых раённых выканаўчых камітэтаў альбо кас дзяржаўнага банку ці ашчаднасьці, не зьмяшчаюцца.

## II. Каляктыўная здача падатку.

§ 11. Платнікі маюць права здаваць падатак каляктыўна праз сваіх упаўнаважаных. У гэтым выпадку падатак здаецца па сьпісах (блянках рэестраў), якія складаюцца платнікамі (упаўнаважаным) і па акладных лістох гаспадарак, што ўнесены ў сьпіс. Упаўнаважанымі могуць быць і члены або старшыня сельсавету.

Упаўнаважаныя адказваюць перад платнікамі за правільную і сваечасовую здачу сум па падатку ў касу раённага выканаўчага камітэту альбо дзяржаўнага банку.

§ 12. Грошы, якія здаюцца ў сельскі савет для ўплаты падатку парадкам каляктыўнай здачы, павінны быць безадкладна зданы ў раённы выканаўчы камітэт.

Сельскім саветам даецца тры льготных дні пасьля наступленьня тэрміну плацяжу дла здачы падатку парадкам каляктыўнай здачы без налічэньня пені.

Пры каляктыўнай здачы падатку праз сельскі савет, апошні складае 2 экзэмпляры рэестраў (замест сьпісаў). Адзін экзэмпляр пры здачы застаецца ў раённым выканаўчым камітэце, а другі з адпаведнымі адзнакамі перадаецца сельскаму савету.

Раённыя выканаўчыя камітэты павінны перасылаць сельскім саветам дастатковую колькасьць блянкаў рэестраў для прыманьня сельгаспадатку каляктыўным парадкам.

## III. Падлік падатковых паступленьняў у сельскіх саветах.

§ 13. Акруговыя выканаўчыя камітэты могуць ускладаць прыйманьне сельгаспадатку, акрамя раённых выканаўчых камітэтаў, і на паасобныя сельсаветы.

§ 14. Сельскія саветы, на якія акруговымі выканаўчымі камітэтамі будзе ўскладзена прыйманьне сельгаспадатку, вядуць рэестры паступленьняў падатку ў двух экзэмплярах.

§ 15. Па сканчэньні аперацыйнага дня падрахункі па рэестру падпісваюцца старшынёю сельскага савету і асобай, на якую будзе ўскладзена прыйманьне плацяжоў. Абодвы экзэмпляры рэестру разам з прынятымі грашыма і аблігацыямі перасылаюцца ў раённы выканаўчы камітэт.

§ 16. Раённы выканаўчы камітэт, атрымаўшы ад сельскага савету грошы і рэестры, правярае падрахункі па ўсіх графах рэестру, зьвярае падрахункі з наяўнасьцю сум і запісвае падрахунковыя даныя рэестру ў касавую кнігу. Адзін экзэмпляр рэестру застаецца ў райвыканкоме, а другі перадаецца сельсавету.

Абодвы экзэмпляры пасьля праверкі падпісваюцца загадчыкам фінансавай часьці райвыканкому і касірам.

## IV. Падлік выкананьня падатку.

§ 17. Падлік выкананьня падатку асобнымі платнікамі вядзецца ў сельскіх саветах. Для гэтага сельскія саветы запаўняюць адпаведныя графы на адвароце вучотнае карткі. Асноваю для вядзеньня асабовых рахункаў платнікаў служаць другія экзэмпляры рэестраў, якія перасылаюцца ў сельскія саветы раённымі выканаўчымі камітэтамі (альбо рэестры паступленьняў, што запаўняюцца сельскімі саветамі).

§ 18. Дадаткова налічаныя і складзеныя сумы сельгаспадатку, якія мелі месца па кожным тэрміну, разьмяркоўваюцца прапарцыянальна падатку бягучага году па адпаведных тэрмінах. У адпаведнасьці з гэтым зьмяняецца раней паказаная па тэрмінах сума падатку, якая падлягае да выплаты.

§ 19. Падставаю для адзнак аб зьмяншэньні сельгаспадатку або аслабаненьні ад яго зьяўляецца копія пастановы раённай падатковай камісіі (ф. № 10), якая пасылаецца праз сельсавет платніку.

Пасьля разьмеркаваньня плацяжоў і зьніжэньняў падатку па картках у дакумэнтах (рэестрах і пастановах ф. № 10), на падставе якіх зроблена гэтае разьмеркаваньне, робіцца адзнака: „занесена ў асабовы рахунак“.

§ 20. Пасьля сканчэньня тэрміну, сума, якая засталася нявыплачанай, не пераносіцца на наступны тэрмін, а застаецца на рахунку данага тэрміну. Адзнакі аб выплаце застаўшайся па тэрміну нядоімкі робяцца ў такім-жа парадку, як і да наступленьня тэрміну плацяжу.

§ 21. Для падліку выкананьня падатку па сельсаветах райвыканкомы вядуць асабовыя рахункі сельскіх саветаў свайго раёну, куды запісваюцца *падрахункі* ўсіх рэестраў як па плацяжох фактычна прынятых райвыканкомамі, так і па прынятых іншымі раённымі выканаўчымі камітэтамі, касамі дзяржаўнага банку і касамі ашчаднасьці, поштай і сельскімі саветамі (па другіх экзэмплярах рэестраў).

§ 22. Для падліку выкананьня падатку па раёнах акругі, акруговыя фінансавыя аддзелы вядуць а абовыя рахункі ўсіх раёнаў акругі.

Для вядзеньня *асабовых* рахункаў сельсаветаў і раёнаў скарыстоўваюцца блянкі рэестраў.

## V. Нядоімка па сельска-гаспадарчаму падатку.

§ 23. Па сканчэньні кожнага тэрміну ўплаты сельгаспадатку, які паказан у акладным лісьце платніка, нявыплачаная да тэрміну сума акладу пералічаецца ў нядоімку. Пры ўплаце нядоімкі налічваецца пеня.

§ 24. Калі тэрмін плацяжу прыпадае на непрацоўны дзень, то пры налічэньні пені гэты непрацоўны дзень (і наступныя адразу-ж за ім непрацоўныя дні) ня ўлічваецца. У гэтым выпадку апошнім тэрмінам плацяжу лічыцца першы працоўны дзень, які наступае за непрацоўным днём.

§ 25. На нядоімку па сельгаспадатку (як бягучага году так і мінулых гадоў) налічваецца пеня ў разьмеры $^{2}/_{10}$ капеек з кожнага рубля (0,2%) за кожны дзень спазьненьня.

Пеня налічваецца на поўныя рублі нядоімкі. Сума нядоімкі звыш 50 кап. лічыцца за рубель, сума менш 50 кап. ня прымаецца ў разьлік пры налічэньні пені.

§ 26. Калі сума, якая ўносіцца платнікам, недастаткова для поўнай аплаты нядоімкі і пені, то ўнесеная сума разьмяркоўваецца прапарцыянальна нядоімцы і пені, якія лічацца да дню ўплаты.

*Прыклад.* Аклад падатку ў разьмеры 20 руб. пералічан у нядоімку 20-га красавіка. 4-га жніўня (г. зн. са спазьненьнем на 125 дзён) нядоімшчык плаціць 15 руб. З нядоімшчыка прылічаецца пені 5 р. (4 капейкі ў дзень—0,2 × 20,—а за 125 дзён—4 к. × 125 = 5 руб.). Значыцца ўсяго прылічаецца з нядоімшчыка 20 + 5 = 25 руб., у тым ліку:

нядоімкі—20 руб. альбо 80% усей сумы
і пені — 5 „ „ 20 „ „ „

Уплачваемыя нядоімшчыкам 15 р. разьмяркоўваюцца наступным чынам:

нядоімкі — 80% альбо 12 руб.
і пені — 20 „ „ 3 „

За нядоімшчыкам застаецца яшчэ нядоімка ў разьмеры 8 руб. (20—12), на якую пры наступных плацяжох павінна налічвацца пеня з 2-га красавіка, г. зн. з моманту сканчэньня тэрміну ўплаты аклада падатку.

§ 27. Калі за платнікам лічыцца нядоімка мінулых акладных пэрыадаў, то пры ўплаце падатку бягучага году ў першую чаргу выплачваецца нядоімка мінулых год і пеня на яе, а астача залічваецца ў плацяжы падатку бягучага году.

## VI. Парадак спагнаньня і складаньня нядоімак і пені па сельгаспадатку.

§ 28. Нядоімкі па сельгаспадатку і налічаная на іх пеня, калі яны ня ўплачваюцца нядоімшчыкамі дабраахвотна, спаганяюцца прымусовымі мерамі.

§ 29. Нядоімкі і пеня па сельгаспадатку могуць быць складзены (раённымі падатковымі камісіямі) па хадайніцтвах платнікаў у наступных выпадках:

а) калі нядоімка лічыцца за гаспадаркамі, якія аслабанены ад сельгаспадатку па неабкладанаму мінімуму;

б) калі нядоімка лічыцца за гаспадаркамі, якія аслабанены ад уплаты падатку па маламоцнасьці;

в) калі гаспадарка пацярпела ад навальных бядот;

г) калі нядоімка лічыцца за неплацяжаздольнымі гаспадаркамі чырвонаармейцаў, партызан і інвалідаў вайны і працы.

§ 30. Нядоімкі ня звыш аднаго рубля могуць быць складзены раённымі выканаўчымі камітэтамі без хадайніцтва платніка (калі выдаткі па спагнаньню не пакрываюцца нядоімкай).

§ 31. Складаньне пені па аднаасабовых і калякты ўных гаспадарках, а таксама па дзяржаўных і грамадзкіх арганізацыях раённага значэньня, праводзіцца раённымі падатковымі камісіямі, а па гаспадарках дзяржаўных і грамадзкіх арганізацый акруговага значэньня і па саўгасах—акруговымі падатковымі камісіямі.

§ 32. Пастановы раённых падатковых камісій могуць быць абскарджаны ў акруговую падатковую камісію.

## VII. Зварот і залік пераплат па сельгаспадатку.

§ 33. Усе перабраныя альбо няправільна спагнаныя з платнікаў сумы сельгаспадатку зварочваюцца платніку альбо (па яго жаданьню) залічваюцца ў плату сельгаспадатку на будучы год.

Пераплаты зварочваюцца толькі ў тым выпадку, калі за платнікам ня лічыцца якіх-небудзь плацяжоў па іншых падатках. Калі-ж за

платнікам маюцца іншыя нявыкананыя плацяжы па падатках, то пераплата залічваецца ў пагашэньне гэтых плацяжоў.

Уплата падатку да наступленьня тэрміну ня лічыцца пераплатай.

§ 34. Для атрыманьня (альбо заліку) пераплат платнік падае ў раённы выканаўчы камітэт заяву (вусную, альбо пісьмовую). Да заявы прыкладаюцца акладныя лісты платніка (за бягучы і за мінулы год).

Заява аб выдачы (або заліку) пераплат можа быць падана праз сельсавет.

§ 35. Раённы выканаўчы камітэт (старшыня, або загадчык фінчасткі) вырашае заяву платніка наконт пераплаты і зварочвае пераплату не пазьней трох дзён ад дня падачы заявы, а пры бясспрэчнасьці справы—у дзень падачы заявы. Аб звароце пераплаты пасылаецца паведамленьне сельсавету. Сельсавет робіць адпаведную адзнаку ў картцы платніка.

§ 36. Зварот пераплачаных сум робіцца раённымі выканаўчымі камітэтамі з наяўных паступленьняў сельгаспадатку. (Гэты выдатак праводзіцца з дзяржаўнага і мясцовага бюджэту ў тых-жа працантавых адносінах, як разьмяркоўваецца сельгаспадатак). Зварот няправільна спагнаных штрафаў за ўтайваньне аб'ектаў абкладаньня таксама праводзіцца з паступленьняў па сельгаспадатку.

Аб усіх выпадках звароту або заліку пераплат робіцца адпаведная адзнака ў акладным лісьце платніка.

§ 37. Калі ў паселішчы ёсьць некалькі асоб, якім прылічаецца пераплата, то зварот можа (па жаданьню платнікаў) быць праведзен калякты́ўна праз старшыню сельсавету. У гэтым выпадку складаецца сьпіс асоб, якім прылічаецца пераплата. (У загалоўку сьпісу паказваецца, што старшыні сельсавету давяраецца атрымаць пераплату за ўсе асобы, паказаныя ў сьпісе). Да сьпісу прыкладаюцца акладныя лісты платнікаў. Сьпіс з расьпіскамі платнікаў аб атрыманьні пераплат сельсавет перадае ў раённы выканаўчы камітэт.

§ 38. Зварот пераплат можа быць па жаданьню платніка зроблен і праз пошту і праз касу ашчаднасьці. Аб гэтым жаданьні платнік павінен адзначыць у сваёй заяве.

§ 39. Каса ашчаднасьці па атрыманьні паштовага пераводу з раённага выканаўчага камітэту, адчыняе платніку асабовы рахунак па касе (калі яго няма), выпісвае ашчадную кніжку і пасылае яе платніку па месцу яго жыхарства.

§ 40. Паштовыя выдаткі па пераводу сум пераплат з раёну ў касы ашчаднасьці нясе каса. (Выдатак па пераводу вылічваецца раённым выканаўчым камітэтам з сум перасылаемых пераплат, а каса ашчаднасьці зварочвае аплату выдатку платніку).

§ 41. Платнік можа захоўваць грошы ў касе ашчаднасьці (тады ён атрымае 8% гадавых), альбо атрымаць іх поўнасьцю ці часткова пры прад'яўленьні ашчаднай кніжкі.

§ 42. Пры заліку пераплат у плацяжы будучага году (калі платнік пажадае гэтага пры падачы заявы) адпаведная пастанова раённага выканаўчага камітэту пасылаецца сельсавету і платніку. Аб заліку пераплаты робіцца адзнака і ў акладным лісьце платніка.

Для паведамленьня платніку скарыстоўваюцца блянкі па ф. № 10

## VIII. Падлік і справаздача па хадайніцтвах, скаргах і льготах.

§ 43. Усе скаргі і хадайніцтвы па сельгаспадатку, якія падаюцца ў раённы выканаўчы камітэт, запісваюцца фінчасткай на асобныя карткі па ф. № 10. Карткі запаўняюцца на кожнага паасобнага платніка.

Пастановы па ф. № 10 запаўняюцца пад капірку ў двох экзэмплярах. У журнал рэгістрацыі папер хадайніцтвы і скаргі не запісваюцца.

§ 44. У пастанове па ф. № 10 запісваецца:

1) калі паступіла скарга або хадайніцтва (год, месяц і дзень),

2) парадкавы нумар паступленьня скаргі або хадайніцтва,

3) кароткі зьмест скаргі або хадайніцтва,

4) прозьвішча, імя і імя па бацьку скаргніка, нумар яго па вучотнай картцы (па сельсьпісу) і адрас,

5) вынікі вырашэньня па скарзе або хадайніцтву з вызначэньнем складзенай або залічанай сумы падатку.

Нумарацыя пастаноў (картак № 10) вядзецца парадкавая неперарыўная з першага нумару.

Для гэтага раіцца весьці на асобным лісьце падлік нумароў скарг і хадайніцтваў. У канцы дня на лісьце запісваецца апошні нумар паступіўшай скаргі або хадайніцтва.

§ 45. Пасьля запаўненьня верхняй часткі блянку ф. № 10 і зьместу заявы блянк ф. № 10 разам з заявай платніка кладзецца ў папку „Неразгледжаных заяў“.

Калі заявы разглядаюцца па сельсаветах, блянкі пастаноў і заявы захоўваюцца ў папцы па сельсаветах. Калі-ж заявы разглядаюцца ў парадку іх паступленьня, то яны і захоўваюцца ў гэтым-жа парадку.

§ 46. Пры разглядзе заяву платнікаў у пастановах (запаўняемых пад капірку) паказваецца:

1) падрабязныя матывы прыняцьця пастановы,

2) сума складзенага акладу, залічанай пераплаты або складзенай нядоімкі,

3) год, месяц і дзень разгляду заявы платніка.

Прыклад запаўненьня пастановы ф. № 10.

| Заява паступіла 25-га жніўня 1929 г. № 69. | ПАСТАНОВА<br>Самахвалав. раённай падатковай камісіі па сельгаспадатку. | Заява разгледж. раён. пад. каміс. 30-га жніўня 1929 г., пратакол № 4. |
|---|---|---|

*Хадайніцтва* / скарга грам. *Апанасюка Хведара Іванава* (прозьвішча, імя, імя па бацьку) № карткі (па сельсьпісу) № 49 паселішча Кацягі сельсавету Гатаўскага.
Зьмест скаргі або *хадайніцтва* аб дачы скідкі з прычыны падзяжу ўлічанай каровы.

| Пастанова Самахвалав. камісіі | Складзена, залічана. | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Нядоімка | Акладу | Пені | Штрафу |
| Бяручы пад увагу адсутнасдць іншай жывёлы, апроч паўшай каровы і адсутнасьць у гаспадарцы працаздольных—даць скідку па сельска-гаспадарчаму падатку згодна §... інструкцыі у разьмеры 100% акладу ў суме . . | | 3 р. 50 к. | 0 р. 21 к. | |

Копія пастановы адаслана 31-га жніўня 1929 г.

Старшыня Сакратар

Пастановы падпісваюцца старшынёй і сакратаром камісіі.

Такім-жа парадкам запаўняюцца сельсаветам карткі па ф. № 10 у тых выпадках, калі сельскай падатковай камісіі даручан разгляд скарг і хадайніцтваў па сельгаспадатку.

§ 47. Пасьля пасяджэньня складаецца пратакол па наступнай форме:

Пратакол №_______

пасяджэньня ____________________ *раённай камісіі па сельгаспадатку*
прэзыд. раённага выканаўчага камітэту.

„______“_______________19 г.

Прысутнічалі:

Старшыня камісіі ___________ Сакратар камісіі ___________
Ад фінчасткі___________ Ад камітэту сялянскай
Ад зямельнай узаемадапамогі ___________
часткі ___________ Ад Дзяржстраху___________
Ад прафсаюзу___________ Ад паселішча___________
Разгледжаны на пасяджэньні і прыняты пастановы па___________
скаргах і хадайніцтвах з №_______ па №_______.

Подпісы
удзельнікаў камісіі.

§ 48. Пасьля подпісу пратаколу другія экзэмпляры пастаноў ф. № 10 пасылаюцца платнікам (праз адпаведныя сельсаветы).

Пратаколы разам з пастановамі і заявамі платнікаў захоўваюцца па меры іх паступленьня.

Калі скаргі або хадайніцтвы разглядаюцца сельскімі падатковымі камісіямі, то пастановы апошніх абвяшчаюцца платнікам толькі пасьля зацьвярджэньня іх раённымі выканаўчымі камітэтамі.

§ 49. Калі платнік не здаволен рашэньнем раённай падатковай камісіі і скардзіцца ў акруговую камісію па пастанове ф. № 10 (адваротная старана), то робяцца адзнакі аб часе падачы скаргі і рашэньні акруговай камісіі.

§ 50. Справаздачнасьць па скаргах і хадайніцтвах (ф. № 12) складаецца і падаецца 2 разы ў год: на 1-ае лістапада і на 1-ае сакавіка. Справаздача па ф. № 12 складаецца на падставе пастаноў ф. № 10, якія разьбіваюцца па відах скаргаў і хадайніцтваў.

У справаздачы па ф. № 12 паказваюцца вынікі разгляду скарг і хадайніцтваў як раённымі, так і акруговымі падатковымі камісіямі і раённымі выканаўчымі камітэтамі.

§ 51. Раённыя выканаўчыя камітэты падаюць справаздачу па ф. № 12 у акруговыя фінансавыя аддзелы: на 1-ае лістапада не пазьней 25-га лістапада і на 1-ае сакавіка—не пазьней 25-га сакавіка.

§ 52. Акруговыя фінаддзелы падаюць справаздачу па ф. № 12 у НКФ БССР: на 1-ае лістапада—не пазьней 10-га сьнежня і па 1-ае сакавіка—не пазьней 10-га красавіка.

## IX. Справаздачнасьць аб паступленьні падатку.

§ 53. Раённыя выканаўчыя камітэты і касы дзяржбанку падаюць у акруговыя фінансавыя аддзелы сводкі паступленьняў падатку за мінулыя два тыдні, кожнага 16-га (за пэрыяд з 1-га да 15 дня месяца ўключна) і кожнага 1-га дня месяца (за пэрыяд з 16-га да канца месяца).

Райвыканкомы ў сваіх сводках паказваюць толькі фактычна прынятыя імі сумы, як непасрэдна, так і пераведзенныя ім праз паштова-тэлеграфныя ўстановы.

§ 54. Форма сводкі: „Сельгаспадатак 15 жніўня падатку 00, нядоімкі 00, пені 00, усяго 00“.

„Першае верасьня“ значыць, што справаздачныя зьвесткі даюцца за час з пачатку кампаніі да 15 жніўня. Першай лічбай (падатку) паказваецца паступленьне падатку бягучай кампаніі грашыма і аблігацыямі (разам). Другой лічбай (нядоімак) паведамляецца паступленьне нядоімак мінулых год грашыма і аблігацыямі (разам). Трэцяй лічбай (пеня)—паступленьне пені па плацяжох бягучага году і нядоімках мінулых год грашыма і аблігацыямі (разам). Чацьвертай лічбай (усяго) паказваецца агульная сума паступленьняў грашыма і аблігацыямі (сума першых трох лічбаў).

Усе зьмяшчаемыя ў справаздачнай сводцы даныя паказваюцца за ўвесь час з пачатку кампаніі.

§ 55. Кожнага 18-га і 3-га дня акруговыя фінансавыя аддзелы, на аснове двухтыднёвых сводак, якія атрыманы ад раённых выканаўчых камітэтаў і кас дзяржбанку, пасылаюць у НКФ БССР сводную тэлеграму аб паступленьнях па акрузе па форме і за тэрміны, паказаныя ў §§ 55 і 56, г. зн. 18-га—за пэрыяд з 1-га да 15-га ўключна і 3-га—за пэрыяд з 16-га да канца месяца.

§ 56. Тэлеграфныя сводкі аб паступленьнях падатку пасылаюцца ў пэрыяд жнівень—студзень. Першая сводка пасылаецца за пэрыяд з 1-га да 15-га жніўня, апошняя—за пэрыяд з 16-га да канца студзеня.

## X. Падлік і справаздачнасьць аб мерах спагнаньня.

§ 57. Падлік мер спагнаньня праводзіцца раённымі выканаўчымі камітэтамі на падставе актаў опісу маемасьці нядоімшчыкаў і гандлёвых лістоў, пастаноў аб аштрафаваньні, матарыялаў аб прыцягненьні да судовай адказнасьці.

§ 58. На падставе паказаных даных раённыя выканаўчыя камітэты складаюць справаздачу аб мерах спагнаньня (ф. № 13). Справаздача складаецца два разы ў год: на 1-ае лістапада і на 1-ае лютага.

§ 59. Раённыя выканаўчыя камітэты падаюць справаздачу ф. № 13 у акруговыя фінансавыя аддзелы: на 1-ае лістапада—не пазьней 1-га сьнежня і на 1-ае лютага не пазней 1-га сакавіка.

§ 60. Акруговыя фінансавыя аддзелы пасылаюць справаздачу ф. № 13 у НКФ БССР: на 1-ае лістапада—не пазней 15-га сьнежня, а на 1-ае лютага—не пазьней 15-га сакавіка.

## XI. Справаздача аб выніках правядзеньня падатку.

§ 61. Не пазьней 20-га красавіка раённыя выканаўчыя камітэты пасылаюць у акруговыя фінансавыя аддзелы ведамасьць аб выніках правядзеньня адзінага сельска-гаспадарчага падатку ў 1929-30 годзе (ф. № 14). Акруговыя фінансавыя аддзелы пасылаюць гэтую форму у НКФ БССР не пазьней 10-га мая.

Нач. Падатковага Кіраўніцтва
НКФ БССР *Рэксьцін.*

9 ліпеня 1929 г.

Узгоднена з ЦСПСБ.

## 19. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра парадак ужываньня арт. 2 пастановы СНК БССР за 5 чэрвеня 1929 г. „Пра пацясьненьне і перасяленьне ў муніцыпалізаваных і прыватных дамох“.**

I. Права на дадатковы пакой (жылую плошчу) ня больш 18,2 кв. мэтра на ўсю сям'ю, незалежна ад наяўнасьці ў сям'і некалькіх работнікаў, якія маюць права на дадатковую жылую плошчу, маюць ўсе адказныя палітычныя працаўнікі, пералічаныя ў пастанове НК Працы СССР за 31 сакавіка 1925 г. (Извест. НКТ 1925 г. № 17-18), а таксама наступныя працаўнікі дзяржаўных, каперацыйных і грамадзкіх установаў.

1. Старшыні, намесьнікі і члены кіраўніцтваў і камісій (напрыклад: Дзяржаўнай Плянавай Камісіі і да т. п.).
2. Кіраўнік Спраў СНК і Эканамічнай Нарады БССР.
3. Інспэктары народных камісарыятаў, акруговыя і гарадзкія інспэктары, загадчыкі ўстановамі і аддзеламі ўстаноў.
4. Сакратары народных камісарыятаў.
5. Кансультанты.
6. Вучоныя спэцыялістыя.
7. Юрысконсульты.
8. Навуковыя сакратары.
9. Эканамісты.
10. Інжэнэры.
11. Галоўныя бухгальтары.
12. Дактары, зубныя і вэтэрынарныя дактары, якія працуюць па сваёй спэцыяльнасьці.
13. Аграномы, лесаводы.
14. Пэдагагічныя працаўнікі.

II. Дадатковая плошча можа быць дадзена работнікам, пералічаным у п. п. 3—11 арт. I гэтай інструкцыі, толькі пры падачы імі спэцыяльнага пасьведчаньня ад установы альбо арганізацыі па месцы службы аб тым, што па роду іх працы яны маюць пільную патрэбу працаваць дома, пры гэтым адміністрацыя ўстаноў і арганізацый адказвае за правільную выдачу гэтых пасьведчаньняў.

Народны Камісар Працы БССР *М. Гнілякевіч.*

Сакратар НК Працы БССР *Ф. Ніканораў,*

9 ліпеня 1929 г.
№ 50.

Апублікавана ў газ. „Сав. Беларусь“ за 12 чэрвеня 1929 г.

Адказны рэдактар **І. Фрыдман.**